● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

10 снежня 1998 г. чацвер, № 239 (23590)

# ЗВЯЗДА




## У БЕЛАРУСЬ З РАБОЧЫМ ВІЗІТАМ ПРЫБЫВАЕ ЛЕАНІД КУЧМА

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма прыбудзе ў нашу краіну з рабочым візітам 11 снежня.**

Паводле звестак БЕЛТА, у гэты ж дзень адбудзецца яго сустрэча з кіраўніком беларускай дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам. Яна пройдзе ў два этапы. Спачатку кіраўнікі дзвюх дзяржаў правядуць перагаворы сам-насам, а затым у пашыраным саставе. Пасля гэтага запланавана падпісанне двухбаковых дакументаў. У другой палове дня адбудзецца сустрэча Леаніда Кучмы з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам.

12 снежня прэзідэнт Украіны наведае прыгранічны Брэст. Мяркуецца, што Леанід Кучма азнаёміцца з работай свабоднай эканамічнай зоны «Брэст», сустрэнецца з кіраўніцтвам еўрарэгіёна «Буг», пабывае ў Мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой».

**БЕЛТА.**

*Інтэрв'ю з прэзідэнтам Украіны чытайце на 3-й стар. «Звязды».*

## ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА ЛІЧЫЦЬ, ШТО ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ПРАМЫХ ВЫБАРАЎ У ПАРЛАМЕНТ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ НЕАБХОДНА РАСПРАЦАВАЦЬ І ПРЫНЯЦЬ АДПАВЕДНЫ ЗАКОН

**Такое меркаванне выказала 8 снежня на прэс-канферэнцыі старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына.**

Нагадаем, што на 9-й сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая прайшла ў лістападзе ў Яраслаўлі, парламентарыямі быў адобраны праект Закона «Аб пераўтварэнні Парламенцкага сходу ў прадстаўнічы і заканадаўчы орган», які прадугледжвае стварэнне двухпалатнага заканадаўчага органа. Пры гэтым ніжняя палата саюзнага парламента, згодна з праектам, павінна фарміравацца праз правядзенне прамых выбараў.

На думку Лідзіі Ярмошынай, цяжкасці з правядзеннем падобных выбараў напрамую звязаны з розніцай у выбарчых заканадаўствах дзвюх краін. Так, у прыватнасці, у Беларусі ўсе 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу абіраюцца па мажарытарнай выбарчай сістэме. Такім чынам, на думку старшыні ЦВК, для правядзення прамых выбараў у саюзны парламент, дзе Беларусь будзе прадстаўлена 28 дэпутатамі, трэба проста аб'яднаць па чатыры выбарчыя акругі ў адну.

У Расіі ж дзейнічае змешаная выбарчая сістэма — частка дэпутацкага корпуса абіраецца па аднамандатных акругах, а частка праходзіць па партыйных спісах. Вырашыць гэтыя праблемы, лічыць Лідзія Ярмошына, можна распрацаваўшы закон аб выбарах дэпутатаў саюзнага парламента. Разам з тым Лідзія Ярмошына адзначыла, што пакуль ніякай падрыхтоўчай працы па падрыхтоўцы да выбараў у саюзны парламент Цэнтрвыбаркам не праводзіць.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**



**Сялянская карміцелька.**

***(Пенсіянер з вёскі Сардыкі Верхнядзвінскага раёна Уладзімір КАРЭНІК).***

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

***Увага — прамая лінія!***

***Сёння на вашы пытанні адкажа міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч БАТУРА***

Усіх нас, вядома, хвалююць шматлікія штодзённыя жыллёвыя пытанні. Ці будзе цёпла ў кватэрах, якой вадой мы будзем карыстацца, колькі прыйдзецца плаціць у далейшым за камунальныя паслугі — колькасць праблем амаль астранамічная.

**«Прамую лінію» «Звязда» праводзіць *10 снежня з 14 да 15 гадзін.*** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: ***(8-017) 232-38-21, 232-38-92.***

## БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ: ГАЛОЎНАЯ ЎВАГА — ЭКАНАМІЧНАМУ СУПРАЦОЎНІЦТВУ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка раніцай 9 снежня прыняў у сваёй рабочай рэзідэнцыі першага намесніка прэм'ера ўрада Расіі Вадзіма Густава.**

У ходзе перагавораў, што праходзілі за зачыненымі дзвярамі, галоўная ўвага ўдзялялася гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву паміж Беларуссю і Расіяй. Бакі выказалі заклапочанасць зніжэннем узроўню тавараабароту паміж дзвюма краінамі і выказалі ўпэўненасць, што ўжо ў бліжэйшы час становішча зменіцца. На іх думку, гэтаму паслужаць цяперашні візіт расійскай дэлегацыі і чарговае пасяджэнне Выканкама Саюза Беларусі і Расіі.

Вырашэнню гэтых праблем павінны садзейнічаць таксама сустрэчы расіян з кіраўнікамі буйных беларускіх прадпрыемстваў, праведзеныя напярэдадні, 8 снежня. Прадстаўнікі банкаўскіх структур — члены гэтай расійскай дэлегацыі, разам з беларускімі калегамі павінны апрацаваць выпрацаваць меры па паскарэнню ўзаемаразлікаў паміж прадпрыемствамі дзвюх дзяржаў.

**БЕЛТА.**

## ЁЛАК БУДЗЕ МЕНШ. УСІМ ХОПІЦЬ?

**Сталічны гандаль даслаў лясгасам Мінскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання заяўку на перадсвяточную пастаўку ёлак на адпаведныя кірмашы.**

Традыцыйна самую вялікую колькасць лясных прыгажунь у краіне «спажывае» сталіца. І хаця сёлета лічба пастаўленых у продаж ёлак для Мінска складзе 14 тысяч штук, гэта ўсё роўна менш, чым было летась. Як зазначылі ў вытворчым аддзеле аб'яднання, «цэны растуць на ўсё, многім ,напэўна, будзе не да ёлак». Што да кошту лясных прыгажунь, дык адпускныя цэны на іх лясгасаў сёння арыенціровачна такія: дрэўца да 1 метра — 41 тысяча рублёў, да 2-х — 57 тысяч, да 3-х — 74 тысячы, да 4-х — 91 тысяча, да 5-ці — 152 тысячы, 6 і больш метраў — 374 тысячы рублёў. У рознічным гандлі ёлкі будуць рэалізоўвацца з 30-працэнтнай надбаўкай.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***КРЫМІНАЛ***

## «ФАНТАМАСЫ» РАСПЕРАЗАЛІСЯ

**Ды так, што іхнія напады на кватэры ці на асобных грамадзян на вуліцах Гомеля фіксуюцца міліцыяй апошнім часам ледзь не кожны дзень ці ноч.**

Напрыклад, пасля абеду трое невядомых у чорных масках з'явіліся ў складзе прыватнага прадпрымальніка (справа была ў выхадныя), звязалі вартаўніка і забралі камп'ютэр і прынтэр, мікрахвалевую печ, прадукты харчавання і зніклі.

А восьмай гадзіне раніцы ахвярай двух «фантамасаў» стаў прарэктар Беларускага універсітэта транспарту, які выйшаў з пад'езда свайго дома і накіроўваўся на работу. Яны збілі яго палкамі, абматалі скотчам.

У выніку нападу на рабочага базы адпачынку «Рамантыка» невядомыя у масках на ўскраіне горада апошні пазбавіўся скуранай курткі і паўтара мільёна рублёў. Ды пашчасціла ўсё ж яму: калі рабаўнікі ў масках пасля ўчыненага садзіліся ў сваю іншамарку, іх заўважылі супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі.

Яны і затрымалі рабаўнікоў — трох маладых хлопцаў з Рэчыцы і аднаго з абласнога цэнтра, якія нідзе не працавалі. У салоне аўтамабіля былі схаваны дзве палкі для збівання ахвяр і пісталет.

## КРАХ «КАРАЛЯ» БІЗНЕСУ

У крымінальным свеце Жлобіна 48-гадовага М.П. ведалі як заядлага наркамана («сядзеў на іголцы» 18 гадоў і быў судзімы). Ды апошнім часам, здаецца, затаіўся, прыціх. Аднак гэта было для міліцыі, а на самай справе М.П. заняўся наркабізнесам: нарыхтоўваў макавую саломку і вырабляў экстракцыйны опій. Калі работнікам міліцыі стала аб гэтым вядома, яны з'явіліся ў яго доме і знайшлі там 25(!) кілаграмаў макавай саломкі і 14(!) літраў опію. Прыгадаем, што на Гомельшчыне адзін слоік саломкі каштуе 250—350 тысяч рублёў, а кубічны сантыметр опію — 100—150 тысяч. І яшчэ. Калі М.П. варыў «зелле» для сябе і наркаманаў, яго сын-школьнік вучыў урокі ў... працігаразе.

## УКРАЛІ І КАШТОЎНАСЦІ, І ІХ ВАРТАЎНІКА — АЎЧАРКУ

Калі пасля трохгадзіннай адлучкі з кватэры прадаўшчыца аднаго з магазінаў Гомеля вярнулася дадому, яна жахнулася: дзверы кватэры былі разтрушчаны, зніклі многія яе каштоўнасці. І вось дзіва: не было і вялізнай аўчаркі, якая сцерагла ўсё гэтае дабро і, як кажуць, вызначалася злым норавам.

Нічога падазронага не заўважылі і суседзі. А крадзеж быў учынены сярод белага дня.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

***ТОЛЬКІ ФАКТ***

Доля **медыцынскай прадукцыі** айчыннай вытворчасці ў агульным аб'ёме закупак лекаў скарачаецца. За 10 апошніх месяцаў гэта лічба склала 13,4 працэнта, што на 5,5 працэнта менш, чым у адпаведным перыядзе мінулага года.

У 1998 годзе на падтрымку **фермерскіх сялянскіх гаспадарак** было выдзелена 95,7 мільярда рублёў. Усе гэтыя сродкі поўнасцю былі накіраваны ў гаспадаркі.

***Усміхнёмся!***




**Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.**

*Ліса, мядзведзь і воўк нечакана звалілся ў яму. Сядзяць дзень, два. Захацелі есці. Ліса кажа:*

*— Давайце, каму менш за ўсё гадоў, таго і з'ядзім! Вось мне, напрыклад, 20.*

*Воўк:*

*— А мне 18.*

*Мядзведзь:*

*— А мне хоць і 15, затое я так уляплю, непанадна будзе.*

●

*У ЗАГСе звяртаюцца да маладой:*

*— Хвалюецеся?*

*— Канешне, першы раз замуж выходжу. У наступны раз хвалявацца не буду.*

***ГРОШЫ***

## У СЕРАДУ «НАРАДЗІЎСЯ» НОВЫ КУРС — СПЕЦЫЯЛЬНЫ

Учора валютны рынак рэспублікі віншавалі з папаўненнем: Нацыянальны банк, не пакідаючы на волю лёсу афіцыйны, пачаў кацірожку спецыяльнага курса, які будзе прымяняцца для бухгалтарскага ўліку, падаткаабкладання і справаздачнасці, а таксама пры здзелках на пазабіржавым рынку. Нягледзячы на тое, што спецыяльны курс у сераду складаў 220 тысяч рублёў за долар, ён, тым не менш, не паспяваў за каціроўкамі, якія ажыццяўляліся на неафіцыйным узроўні, дзе курс дасягаў мяжы ў 440 тысяч. Тым не менш, з'яўленне спецыяльнага курса, як лічыць, напрыклад, загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лучанок, гэта маленькі крок у правільным накірунку.

— На самай справе, мэтазгодна было б прыняць наступныя меры. Першае — юрыдычна прызнаць часовую наяўнасць множнасці абменных курсаў і пачаць вяртанне да практыкі правядзення на Міжбанкаўскай валютнай біржы дзвюх сесій, на якіх праводзяцца таргі. З гэтай мэтай неабходна пры часовым захаванні існуючага завочна афіцыйнага курса зменшыць долю абавязковага продажу валюты па ім да 15—20 працэнтаў, выключыўшы любыя вызваленні ад абавязковага продажу. Далей трэба даць магчымасць пакупнікам валюты ўключаць рэальны рыначны курс у сабекошт сваіх работ і паслуг. Што фактычна зроблена, але часткова. Патрэбна ўжо ў бліжэйшы час увесці на МВБ другую сесію, на якой курс будзе ўстанаўлівацца зыходзячы з попыту і прапанавання валюты.

На другім этапе, лічыць Аляксандр Іванавіч, трэба перайсці да ўстанаўлення афіцыйнага курса Нацыянальнага банка па выніках таргоў на другой сесіі на Міжбанкаўскай валютнай біржы, гэта значыць па курсу попыту і прапанавання. Да таго ж трэба прадумаць пытанні па адмене абмежаванняў на разлікі ў беларускіх рублях і шэраг іншых мерапрыемстваў.

На трэцім — ажыццявіць пераход на адзіны рыначны валютны курс: прыблізіць курс на першай сесіі МВБ да курса другой сесіі з паступовым вяртаннем Міжбанкаўскай валютнай біржы да згубленай ёй функцыі рыначнага рэгулятара попыту і прапанавання валюты.

Новаўвядзенне, на думку эканамістаў, дапаможа прадпрыемствам зменшыць іх затраты, чым крыху аблегчыць іх становішча. Многія прадпрыемствы, як вядома, рэальна набываюць валюту па рыначнаму курсу, а былі вымушаны ў дакументах адлюстроўваць курс па афіцыйнаму. Значыць, камусьці дыхаць стане лягчэй...

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 9 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RUR Купля | RUR Продаж | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 210000 | 230000 | 128000 | 137300 | 10200 | 11200 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) афіцыйны курс | 92000 | | 55169,11 | | 4580 | | *Курс на 10.12.1998* |
| спецыяльны курс | 220000 | | 131926,13 | | 10956,18 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 20,0800 | | 12,0507 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

**11-12 снежня адбудзецца візіт у Беларусь прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Напярэдадні візіту кіраўнік украінскай дзяржавы даў у Кіеве эксклюзіўнае інтэрв'ю «Інтэрфаксу»**



## Леанід КУЧМА:

# «НЕРАСТАРОПНАСЦЬ УРАДАЎ БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ З'ЯВІЛАСЯ ПРЫЧЫНАЙ ЗНІЖЭННЯ ТАВАРААБАРОТУ ПАМІЖ ДЗВЮМА КРАІНАМІ»

**— ЛЕАНІД ДАНІЛАВІЧ! Як бы вы ахарактарызавалі цяперашні стан адносінаў паміж Украінай і Беларуссю? Чаго вы чакаеце ад маючага адбыцца візіту ў Беларусь?**

— У цэлым адносіны паміж нашымі дзяржавамі развіваюцца нармальна. Але разам з тым трэба прызнаць, што ўрады, як беларускі, так і ўкраінскі, працуюць над пытаннямі двухбаковага супрацоўніцтва неяк эпізадычна, а не пастаянна, як бы гэтага хацелася прэзідэнтам абедзвюх краін. У гэтым корань праблем у гандлёва-эканамічных адносінах паміж Беларуссю і Украінай.

Кожны год, кожны месяц тавараабарот паміж нашымі краінамі змяншаецца (у сёлетнім годзе тавараабарот паміж Беларуссю і Украінай знізіўся на 16 працэнтаў. — **«ІФ»**). У гэтым вінаваты абодва бакі. Думаю, што гэтая тэма стане адной з асноўных у ходзе маючых адбыцца перагавораў з прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, з якім я плану сустрэцца ў Мінску ў наступную пятніцу.

Адбудзецца сур'ёзная размова, якая проста неабходна. У ходзе дыялога мы закранём не адну праблему, а комплекс пытанняў у многіх сферах.

Зніжэнне тавараабароту паміж нашымі краінамі — гэта проста ганьба для нас. Нельга дапускаць гэтага. Прычына — нерастаропнасць у першую чаргу на ўзроўні ўрадаў. Калі мы сустракаемся на ўзроўні прэзідэнтаў, то ніякіх праблем па пытаннях супрацоўніцтва не ўзнікае. Але як толькі ўзровень дыялога апускаецца на адзін або, тым больш, на два пункты, то там часта ўсё і гіне. А магчыма, блакіруецца з чыйго-небудзь благаславення. Па прынцыпу: чым горш, тым лепш. Для нейкіх сіл.

Узаемныя эканамічныя інтарэсы ў нас ёсць. Зусім нядаўна, напрыклад, прапанавалі паставіць у Беларусь пэўную колькасць мукі і іншых тавараў. Гатовы ўзамен атрымаць беларускія трактары.

Сустрэчы кіраўнікоў суседніх дзяржаў неабходныя. Трэба «зверыць гадзіннікі», абмеркаваць пытанні супрацоўніцтва з тым, каб наша ўзаемадзеянне ішло на карысць кожнага з бакоў. А галоўнае — пастарацца выпрацаваць і прыняць сумесныя дзеянні для ажыўлення гандлю. Трэба пасадзіць нашых чыноўнікаў усіх побач — няхай шукаюць шляхі развіцця гандлёва-эканамічных адносінаў і думаюць, якім чынам гэта трэба зрабіць. У цяперашніх няпростых эканамічных умовах чакаць, калі механізмы адладзяцца самі сабой і эфектыўна запрацуюць, — проста няма сэнсу.

У ходзе перагавораў з Аляксандрам Рыгоравічам, напэўна, не абыдзем тэму сітуацыі ў Расіі. І для Беларусі, і для Украіны палітычная і эканамічная сітуацыя ў Расіі мае вялікае значэнне. Самі ведаеце: «у іх стукнецца — у нас адгукнецца».

**— Нядаўна Беларусь і Крым падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве па шырокаму колу эканамічных пытанняў. Якая ваша пазіцыя адносна таго, што прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка прымяняе ў адносінах з Украінай ужо адпрацаваную з Расіяй схему развіцця сувязяў на рэгіянальным узроўні, мінуючы цэнтр — Кіеў?**

— Адношуся да гэтага станоўча. Я прапанаваў спецыяльна для гэтага правесці ў суботу ў Брэсце, у ходзе другога дня майго візіту ў Беларусь, сустрэчу беларускіх і ўкраінскіх губернатараў. Па лініі міністэрстваў замежных спраў гэта пытанне прапрацоўваецца. Лічу, што любы крок на шляху рэгіянальнага супрацоўніцтва пойдзе на карысць абедзвюм краінам. Сапраўды, сёння на ўзроўні рэгіёнаў можна эфектыўна вырашаць многія праблемы, якія цэнтр, зыходзячы са сваёй кансерватыўнасці, а часта з-за адсутнасці заканадаўчай базы, не ў стане вырашаць належным чынам.

Сустракаючыся з прэзідэнтам Беларусі некалькі месяцаў таму ў Крыме, я падтрымаў ініцыятыву актывізацыі супрацоўніцтва на рэгіянальным узроўні.

**— З Кіева даволі настойліва гучаць заклікі да Мінска паскорыць юрыдычнае афармленне пытання аб дзяржаўнай граніцы паміж Беларуссю і Украінай. Чым гэта абумоўлена?**

— Украіна выступае за тое, каб рубяжы паміж нашымі дзяржавамі былі «празрыстымі», за тое, каб граніца мела еўрапейскі цывілізаваны выгляд, каб не стаялі па абодва бакі пагранічных пераходаў чэргі аўтамабіляў.

А мытня, яна патрэбна, перш за ўсё, з пункту гледжання праходжання і ўліку тавараў, стварэння перашкод для пранікнення кантрабанды, наркотыкаў і зброі.

Наколькі я інфармаваны, паміж нашымі краінамі няма ніякіх супярэчнасцяў, рознагалоссяў і прэтэнзій адносна граніц як з боку пагранічнікаў, так і мытнікаў. Не толькі ўкраінскі, але і беларускі бок увёў пагранічны кантроль. Гэта ўзаемнае рашэнне.

Хачу асабліва падкрэсліць: у кіраўнікоў абедзвюх краін няма задачы зрабіць з беларуска-ўкраінскай мяжы «глухі плот».

**— Як кіраўнік суседняй дзяржавы вы адчуваеце, што Беларусь знаходзіцца ў міжнароднай ізаляцыі?**

— Так, я гэта адчуваю па сваіх шматлікіх сустрэчах за мяжой і калі да нас ва Украіну прыязджаюць замежныя дэлегацыі. Мне цяжка і, мабыць, некарэктна было б гаварыць аб прычынах ізаляцыі. Але адной з іх называюць праблему вакол «Драздоў». Ну і, мабыць, камусьці штосьці не падабаецца ў палітыцы, якую праводзіць Беларусь.

Я ўсюды выступаю за тое, каб сітуацыя змянілася. Гавару гэта ў тым ліку і тым, хто ажыццяўляе гэтую ізаляцыю. Мы ўсё будзем рабіць, каб гэтага не было.

**— Вядома, што прэзідэнт Беларусі з'яўляецца прыхільнікам надання дынамізму і канкрэтыкі інтэграцыйным працэсам у рамках СНД. У той жа час Украіна займае ў адносінах да Садружнасці стрыманую пазіцыю. Чым гэта тлумачыцца?**

— Для любога саюза, у тым ліку і СНД, перш за ўсё важны вынік. Уступаючы ў які-небудзь саюз, кожны бок павінен зыходзіць перш за ўсё з прынцыпу эканамічнай мэтазгоднасці.

Апошнія падзеі, асабліва фінансавы абвал у Расіі, які адбыўся ў жніўні гэтага года, а таксама далейшыя працэсы паказалі, што СНД, сціпла кажучы, недзеяздольны. Звязана гэта ў большай ступені з пазіцыяй тагачаснага ўрада Расіі. Глыбока перакананы: на другі дзень пасля абвалу ў Расіі яе ўраду трэба было запрасіць на сустрэчу калі не прэм'ер-міністраў краін СНД, то хаця б міністраў фінансаў, каб параіцца: як дзейнічаць ва ўзнікшай сітуацыі. Замест гэтага кожная краіна пачала выжываць у адзіночку, ніхто не ведаў сапраўдных прычын абвалу... Гэта як нішто іншае характарызуе наш Саюз — СНД.

Сёння перш за ўсё над працэсамі ў СНД павінна думаць Расія. Украіна ж ніколі не была і не будзе прычынай праблем у СНД.

Я стаў першым з прэзідэнтаў рэспублік Садружнасці, які падпісаў прапанаваную Выканаўчым сакратаром СНД Б. Беразоўскім новую структуру СНД. У сфармуляваных Барысам Абрамавічам ініцыятывах убачыў рацыянальнае зерне і падтрымаў яго прапанову па рэфарміраванню Выканаўчага сакратарыята. Наколькі мне вядома, ініцыятывы Б. Беразоўскага падтрымалі ўжо дзесяць кіраўнікоў дзяржаў СНД.

Паўтараю: на першым месцы ў любым Саюзе павінна стаяць эканоміка, эканамічныя інтарэсы. Калі ж разглядаць СНД толькі з палітычнага пункту гледжання, разлічваць на ўплыў яго на міжнародныя глабальныя геапалітычныя праблемы, то, на мой погляд, у гэтага аб'яднання ў дадзеным плане няма ніякай будучыні.

Я выступаю за наданне новага дыхання Садружнасці. Дасць Бог, Барыс Мікалаевіч Ельцын стане ў строй. Пры такой умове можна змяніць існуючую на сённяшні дзень сітуацыю. А змены неабходныя.

**— Пасля фінансавага абвалу ў Расіі афіцыйных кансультацый кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці па выхаду з узнікшай сітуацыі не было. Тым не менш, вы кансультаваліся з прэзідэнтам Беларусі наконт гэтага? Магчыма, у гутарках па тэлефоне абмяркоўвалі пытанні, звязаныя з мінімізацыяй негатыўных вынікаў расійскага крызісу?**

— Безумоўна, так. Асабіста стараўся падтрымліваць дыялог з многімі прэзідэнтамі краін Садружнасці. Размаўляючы з імі, параўноўваў сітуацыі, аналізаваў. Зыходзячы з гэтага прымаў рашэнні.

Кансультацыі заўсёды карысныя. Не важна, што пачуеш: тое, што хочаш пачуць, ці наадварот. Але не ўлічваць працэсаў, якія адбываюцца ў тваіх бліжэйшых суседзяў, напэўна, немагчыма. Украінская эканоміка вельмі цесна звязана з беларускай. Нават нягледзячы на тое, што тавараабарот паміж нашымі краінамі зніжаецца.

Вядома, у рамках супрацоўніцтва дзвюх краін трэба рабіць значна больш эфектыўных цвёрдых крокаў. Але прыклад супрацоўніцтва Беларусі і Украіны — адзін з самых добрых прыкладаў супрацоўніцтва на прасторы СНД. Мы з Аляксандрам Рыгоравічам гаварылі пра гэта неаднойчы.

Думаю, што беларускі і ўкраінскі бакі апошнім часам у нейкай ступені загуляліся ў палітыку, забыўшыся пра эканоміку. Асабліва захапляцца нейкімі саюзамі ўнутры Саюза не варта... Зрэшты...

Гэта не магло не адбіцца на эканоміцы.

У цяжкія моманты мы асабліва павінны працягваць адзін аднаму рукі, зыходзячы зноў жа з таго, што Беларусь і Украіна былі, ёсць і будуць добрымі суседзямі.

**Гутарыў Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**

---

*Павел ШЫПУК:*

### «МІЖПАРЛАМЕНЦКАМУ КАМІТЭТУ НЕАБХОДНА ПАСКОРЫЦЬ ТЭМПЫ РАСПРАЦОЎКІ ПРАВАВОЙ БАЗЫ»

**Новы старшыня Міжпарламенцкага камітэта Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі Павел Шыпук адной з самых галоўных задач МПК лічыць паскарэнне тэмпаў распрацоўкі яго прававой базы, і перш за ўсё ў сферы эканамічнага рэгулявання.**

На жаль, падкрэсліў Павел Шыпук, да гэтага часу не ўдалося поўнасцю уніфікаваць падатковае заканадаўства. Не даведзена да лагічнага завяршэння і работа па ўзаемнаму прадастаўленню аднолькавага рэжыму суб'ектам гаспадарання, стварэнню агульнага рынку ў галіне энергетыкі, транспарту і сувязі, увядзенню адзіных прынцыпаў фарміравання тарыфнай палітыкі ў гэтых сферах.

Прыняцце мадэльных законаў і іншых дакументаў Міжпарламенцкага камітэта, лічыць Павел Шыпук, — гэта толькі першая частка дзейнасці МПК. Неабходна, каб нарматыўныя дакументы, якія ён прымае, рэалізоўваліся ў заканатворчай дзейнасці парламентаў дзяржаў-удзельніц, для чаго трэба будзе выпрацаваць пэўны механізм.

Сярод прыярытэтных напрамкаў работы МПК на бліжэйшую перспектыву Павел Шыпук назваў стварэнне адзінай эканамічнай прасторы шляхам фарміравання агульнага рынку тавараў, паслуг, капіталу, рабочай сілы, а таксама далейшае развіццё мытнага саюза, удасканаленне прававой базы для інтэграцыі. Ён таксама адзначыў неабходнасць больш цеснага ўзаемадзеяння з Інтэграцыйным камітэтам, Міжпарламенцкай асамблеяй, МЭКам, міністэрствамі і ведамствамі дзяржаў — удзельніц МПК пры падрыхтоўцы мадэльных заканадаўчых актаў і іншых нарматыўных дакументаў.

**БЕЛТА.**

---

*ПОГЛЯД*

# ВАКАНТНЫЯ П'ЕДЭСТАЛЫ

## *Як складваецца лёс помнікаў камуністычнай эпохі*

**На мінулым тыдні левая большасць расійскай Дзяржаўнай Думы прагаласавала за тое, каб бронзавая статуя Фелікса Дзяржынскага была вернута на сваё ранейшае месца — у цэнтр Масквы, на Лубянскую плошчу, побач з будынкам колішняга КДБ. Гэта рашэнне выклікала бурную рэакцыю сярод палітычных апанентаў расійскіх камуністаў. І не толькі сярод іх. Мэр Масквы Юрый Лужкоў, які лічыцца адным з галоўных прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта і прытрымліваецца левацэнтрысцкіх пазіцый, негатыўна паставіўся «да ідэі вяртання «жалезнага Фелікса». А без Лужкова на маскоўскіх вуліцах і плошчах помнікі і манументы не з'яўляюцца...**

Палітычныя спрэчкі вакол асобы Дзяржынскага маюць дачыненне да Беларусі не толькі таму, што стваральнік ВЧК і адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Леніна нарадзіўся ў нашым краі.

У жнівеньскія дні 1991 года ачэплены тросамі помнік Дзяржынскаму, які пад гул натоўпу адрывалі ад пастамента адразу некалькі кранаў, стаў сімвалам новай эпохі. Людзям, якія сабраліся тады на Лубянцы (як, зрэшты, і тым, хто назіраў гэтую акцыю па тэлевізары), здавалася, што разам з помнікам адыходзяць у нябыт змрочныя часы, якія гэты манумент сімвалізаваў, — з іх гвалтам над іншадумцамі, палітычнымі рэпрэсіямі, тэрорам, ГУЛАГам...

Цяперашняя спроба расійскіх камуністаў вярнуць помнік на плошчу — гэта відавочная прага рэваншу. Яны і без таго ўмацавалі сваю ўладу ў Расіі: рыначныя рэформы спынены; ва ўрадзе шмат ідэйна блізкіх ім людзей; цяжка хворы Барыс Ельцын фактычна не здольны выконваць прэзідэнцкія функцыі. Камуністы маюць рэальныя шанцы на тое, каб на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах канчаткова ўзяць у свае рукі ўсе ўладныя рычагі. Помнік Дзяржынскаму для іх найперш — сімвалічны акт рэваншу, знакавая падзея, кропка ў зацяжной барацьбе з рэфарматарамі.

Хоць з трыбуны Думы камуністы абгрунтоўвалі сваё патрабаванне зусім іншымі аргументамі: гаварылі аб мастацкай каштоўнасці помніка; аб тым, што нельга выкрэсліваць з гісторыі асобныя яе старонкі; што Дзяржынскі змагаўся не толькі са святарамі і дваранамі, але і з бандытамі. Нарэшце, апелявалі да вопыту цывілізаванай Еўропы, дзе да любых помнікаў, як вядома, ставяцца надзвычай паважліва.

На постсавецкай (і ўвогуле на постсацыялістычнай) прасторы праблему помнікаў камуністычным правадырам вырашалі па-рознаму. У большасці краін Усходняй Еўропы гэтыя манументы зніклі з такой жа хуткасцю, як у свой час, сорак гадоў таму, былі пастаўлены. Прычым рабілася гэта не ў запале барацьбы з камунізмам і яго сімваламі. Нярэдка зносу папярэднічалі дыскусіі мастацтвазнаўцаў, архітэктараў, гісторыкаў. Гучалі і аргументы наконт таго, што любая эпоха павінна быць увекавечана і што бессэнсоўна змагацца з помнікамі — нашчадкі за гэта толькі асудзяць.

Аднак бралі верх, як правіла, прыхільнікі контраргументаў. Помнікі камуністычным правадырам былі ўстаноўлены на галоўных вуліцах і плошчах. Пакінуць іх на ранейшых месцах — значыць змірыцца з тым, што камуністы перарабілі на свой лад гарадскі ландшафт, змянілі гістарычнае аблічча цэнтраў старажытных гарадоў, што іх застылыя ў бронзе ідэі па-ранейшаму дамінуюць над гарадскім асяроддзем.

Праўда, да поўнага знішчэння помнікаў, як правіла, не даходзіла. Адны звергнутыя статуі знайшлі прытулак у музеях (у многіх усходнееўрапейскіх сталіцах створаны спецыяльныя музеі гісторыі камуністычнай дыктатуры і генацыду); другія былі ўстаноўлены ў парках і скверах на ўскраінах гарадоў — зноў жа ў выглядзе своеасаблівых экспанатаў. Знятыя з п'едэсталаў і расстаўленыя адзін ля аднаго, бронзавыя гіганты імгненна трацяць былую веліч і ператвараюцца проста ў ілюстрацыю адышоўшай эпохі. Аднак такі «музейны» лёс напаткаў не ўсе статуі — толькі тыя, якія мелі мастацкую і гістарычную каштоўнасць. Менш за іншых пашанцавала бронзавым выявам Леніна: растыражыраваныя ў вялікай колькасці, многія статуі Ільіча такімі якасцямі не вызначаліся, а таму бясследна зніклі з плошчаў гарадоў і мястэчак Усходняй Еўропы.

Беларусь у адносінах да гэтай праблемы (як, зрэшты, і ў многіх іншых сферах грамадскага жыцця) выбрала ўласны шлях. Усе помнікі камуністычнай эпохі ў нас (за рэдкім выключэннем) захаваныя. І дзіўная рэч: паступова яны губляюць свае ранейшыя ідэалагічныя функцыі і нават канфрантацыйны патэнцыял, характэрны для пачатку 90-х гадоў.

Бронзавы Дзяржынскі на праспекце Скарыны па-ранейшаму строга пазірае ў вокны будынка КДБ, — і гэта ўжо мала каго хвалюе. Спытайце ў прахожых з ліку 12—14-гадовых падлеткаў, хто ўвекавечаны гэтым бюстам, амаль ніхто не адкажа. Ім і прозвішча Дзяржынскага амаль нічога не гаворыць.

Гэтак жа сотні помнікаў Леніну на плошчах беларускіх гарадоў і пасёлкаў, пазбаўленыя сваёй ранейшай функцыі, сталі выконваць зусім іншую ролю. Яны страцілі веліч і значнасць, быццам ураслі ў зямлю, сталі меншымі, ператварыліся ў нейтральную частку гарадскога ландшафту — як слупы ці дрэвы. Гэтыя помнікі праходзяць, напэўна, самую прыкрую стадыю для іх стваральнікаў і тых, хто лічыў увасобленую ў іх ідэалогію вечнай, — стадыю раўнадушнасці.

Сучаснікам цяжка ацэньваць нядаўнюю гісторыю аб'ектыўна і непрадузята. Былы вязень ГУЛАГа, які за сваё сацыяльнае паходжанне правёў у сібірскіх лагерах лепшую частку жыцця, наўрад ці калі-небудзь зможа абыякава ставіцца да таго факта, што галоўныя вуліцы і плошчы яго горада застаўлены статуямі стваральнікаў той сістэмы падаўлення. Менавіта таму Усходняя Еўропа перажыла паласу барацьбы з помнікамі таталітарызму, а ў суседняй Расіі помнік Дзяржынскаму ператварыўся ў сур'ёзную палітычную праблему.

Калі камуністычным помнікам у Беларусі суджана перажыць ахвяр камуністычнай сістэмы — з цягам часу гэтыя бронзавыя статуі канчаткова страцяць усякую палітычную функцыю. І нашы нашчадкі, магчыма, будуць нават удзячныя, што мы захавалі гэтыя рэліквіі незразумелай ім эпохі — як, для прыкладу, сённяшнія егіпцяне ўдзячныя сваім старажытным продкам за грабніцу Тутанхамона, дзякуючы якой краіна стала сусветным турыстычным цэнтрам.

Зрэшты, пра такі лёс гэтых помнікаў пакуль гаварыць не выпадае. Навейшая гісторыя сведчыць, што Беларусь хоць і з прыкметным спазненнем, эксперыментуючы і памыляючыся, усё ж праходзіць прыкладна той жа шлях у грамадскім і эканамічным развіцці, што і суседнія краіны. Мы свайго этапа развітання з таталітарным мінулым пакуль не перажылі. І ці ўдасца яго пазбегнуць — пытанне пакуль адкрытае.

**Валянцін ЖДАНКО.**

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

## АБ АДПАВЕДНАСЦІ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЧАСТКІ ПЯТАЙ АРТЫКУЛА 92 КРЫМІНАЛЬНА-ПРАЦЭСУАЛЬНАГА КОДЭКСА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага Суда Васілевіча Р.А., намесніка Старшыні Марыскіна А.У., суддзяў Бойка Т.С., Кенік К.І., Падгрушы В.В., Саркісавай Э.А., Філіпчык Р.І., Цікавенкі А.Г., Шабайлава В.І., Шукліна В.З., Шышко Г.Б.

з удзелам прадстаўнікоў бакоў:

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, унёсшага прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці часткі пятай артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: Лукашова А.І. — начальніка аддзялення заканадаўства па пытаннях абароны і грамадскай бяспекі, праваахоўных і судовых органаў Нацыянальнага цэнтра законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь;

Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь: Арлова Л.К. — загадчыка аддзела крымінальнага і адміністрацыйнага заканадаўства ўпраўлення экспертызы законапраектаў Галоўнага экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў;

Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь: Сянюты Л.Я. — галоўнага спецыяліста экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Савета Рэспублікі

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь часткі пятай артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Царэнка Я.М. — намеснік Старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь; Ждановіч І.М. — намеснік Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь; Бажэлка А.А. — Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь; Сяргеева В.Г. — намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вядзенне па справе ўзбуджана Канстытуцыйным Судом 7 ліпеня 1998 г. па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на падставе артыкула 116 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» і артыкула 43 Рэгламенту Канстытуцыйнага Суда.

У прапанове Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь паставіў пытанне аб праверцы канстытуцыйнасці часткі пятай артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, згодна з якой час азнаямлення абвінавачваемага і яго абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы пры вылічэнні тэрміну ўтрымання пад вартай у якасці меры стрымання не ўлічваецца (ЗЗ БССР, 1990 г., № 2, арт.16).

Заслухаўшы суддзю-дакладчыка Філіпчык Р.І., прадстаўнікоў бакоў, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, Крымінальна-працэсуальнага кодэкса і іншых нарматыўных актаў, а таксама міжнародна-прававых актаў, даследаваўшы матэрыялы справы, Канстытуцыйны Суд устанавіў.

У артыкуле 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (у далейшым КПК) прадугледжана наступнае.

Утрыманне пад вартай пры расследаванні злачынстваў па крымінальных справах не можа працягвацца больш двух месяцаў. Гэты тэрмін можа быць прадоўжаны раённым, гарадскім пракурорам, ваенным пракурорам гарнізона і прыраўнаваным да іх пракурорам у выпадку немагчымасці закончыць расследаванне і пры адсутнасці падстаў для змянення меры стрымання — да трох месяцаў. Далейшае прадаўжэнне тэрміну можа быць ажыццёўлена толькі з прычыны асобай складанасці справы пракурорам вобласці, горада Мінска і прыраўнаваным да іх пракурорам — да шасці месяцаў з дня ўзяцця пад варту.

Прадаўжэнне тэрміну ўтрымання пад вартай звыш шасці месяцаў дапускаецца ў выключных выпадках і толькі ў адносінах да асоб, якія абвінавачваюцца ва ўчыненні цяжкіх злачынстваў. Такое прадаўжэнне ажыццяўляецца намеснікам Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь — да аднаго года і Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь — да паўтара гадоў. Пытанне аб утрыманні абвінавачваемага пад вартай на тэрмін звыш аднаго года папярэдне разглядаецца на калегіі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

Далейшае прадаўжэнне тэрміну не дазваляецца, абвінавачваемы, які ўтрымліваецца пад вартай, падлягае неадкладнаму вызваленню.

Матэрыялы закончанай расследаваннем крымінальнай справы павінны быць прад'яўлены для азнаямлення абвінавачваемаму і яго абаронцу не пазней чым за месяц да заканчэння максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, устаноўленага часткай другой указанага артыкула.

Час азнаямлення абвінавачваемага і яго абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы пры вылічэнні тэрміну ўтрымання пад вартай у якасці меры стрымання не ўлічваецца.

Пры вяртанні судом на новае расследаванне справы, па якой тэрмін утрымання абвінавачваемага пад вартай закончыўся, а па акалічнасцях справы мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай зменена быць не можа, прадаўжэнне тэрміну ўтрымання пад вартай праводзіцца пракурорам, які ажыццяўляе нагляд за следствам, у межах аднаго месяца з моманту паступлення да яго справы. Далейшае прадаўжэнне ўказанага тэрміну праводзіцца з улікам часу знаходжання абвінавачваемага пад вартай да накіравання справы ў суд у парадку і межах, устаноўленых часткамі першай, другой і пятай указанага артыкула.

Пастанова аб прадаўжэнні тэрміну ўтрымання пад вартай можа быць абскарджана ў суд.

Пры паўторным узяцці пад варту той жа асобы і па той жа справе пасля адмены суддзёй арышту тэрміны ўтрымання пад вартай, устаноўленыя ўказаным артыкулам, вылічваюцца з улікам часу знаходжання дадзенай асобы пад вартай да адмены арышту суддзёй.

Такім чынам, у адпаведнасці з артыкулам 92 КПК утрыманне пад вартай пры расследаванні злачынстваў па крымінальных справах не можа працягвацца больш за два месяцы; пры асобай складанасці справы і ў іншых выключных выпадках па рашэнню адпаведнага пракурора тэрмін утрымання пад вартай можа быць прадоўжаны да паўтара гадоў. Далейшае прадаўжэнне тэрміну ўтрымання пад вартай у адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 92 КПК не дапускаецца, і абвінавачваемы, які ўтрымліваецца пад вартай, падлягае неадкладнаму вызваленню. Разам з тым часткай пятай артыкула 92 КПК устаноўлена, што час азнаямлення абвінавачваемага і яго абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы пры вылічэнні тэрміну ўтрымання абвінавачваемага пад вартай у якасці меры стрымання не ўлічваецца.

Канстытуцыйны Суд, правяраючы канстытуцыйнасць указанай нормы, прыйшоў да наступных высноў.

Згодна з артыкуламі 21 і 23 Канстытуцыі дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы. Абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

У адпаведнасці з артыкулам 25 Канстытуцыі дзяржава забяспечвае свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы. Абмежаванне або пазбаўленне асабістай свабоды магчыма ў выпадках і парадку, устаноўленых законам. Асоба, узятая пад варту, мае права на судовую праверку законнасці яе затрымання або арышту.

Указаныя нормы Канстытуцыі сведчаць аб тым, што ніхто не можа быць падвергнуты адвольнаму арышту або ўтрыманню пад вартай і пазбаўлены волі інакш як у адпаведнасці з законам. Канстытуцыя таксама абвяшчае права абвінавачваемага на абарону і гарантуе гэта права працэсуальнымі сродкамі, абавязваючы дзяржаўныя органы забяспечваць яго рэалізацыю.

У адпаведнасці з патрабаваннямі норм главы першай КПК «Асноўныя палажэнні» ніхто не можа быць падвергнуты арышту інакш як на падставе судовага рашэння або з санкцыі пракурора (артыкул 7). У частцы першай артыкула 91 КПК прадугледжана, што ўзяцце пад варту ў якасці меры стрымання прымяняецца з захаваннем патрабаванняў Палажэння аб папярэднім узяцці пад варту ў Рэспубліцы Беларусь і артыкула 7 КПК па справах аб злачынствах, за якія законам прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін звыш аднаго года. У выключных выпадках гэта мера стрымання можа быць прыменена па справах аб злачынствах, за якія законам прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі і на тэрмін не вышэй аднаго года.

У адпаведнасці з часткай чацвёртай артыкула 200 КПК матэрыялы закончанай расследаваннем крымінальнай справы павінны быць прад'яўлены для азнаямлення абвінавачваемаму і яго абаронцу не пазней чым за месяц да заканчэння максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, устаноўленага часткай другой артыкула 92 КПК. Азнаямленне з усімі матэрыяламі справы пасля заканчэння следства з'яўляецца правам абвінавачваемага, прадугледжаным нормамі крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. Абвінавачваемы ў гэтым выпадку аказваецца перад выбарам паміж больш глыбокай падрыхтоўкай да працэсу і хуткай судовай працэдурай. Да нейкай ступені ён вымушаны браць на сябе вынікі такога выбару.

Згодна з часткай сёмай артыкула 200 КПК абвінавачваемы і яго абаронца не могуць абмяжоўвацца ў часе, неабходным ім для азнаямлення з усімі матэрыяламі справы. Аднак калі абвінавачваемы і яго абаронца відавочна зацягваюць азнаямленне з матэрыяламі справы, то следчы мае права сваёй матываванай пастановай, зацверджанай пракурорам, устанавіць пэўны тэрмін для азнаямлення з матэрыяламі справы.

У час азнаямлення з матэрыяламі справы як самога абвінавачваемага, так і яго абаронцы, абвінавачваемы, які ўтрымліваецца пад вартай, знаходзіцца ў тых жа ўмовах ізаляцыі і да яго прымяняецца той жа рэжым утрымання, якія мелі месца на працягу прымянення да яго мераў стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту.

Узяцце пад варту з'яўляецца самай строгай мерай стрымання, якая істотна абмяжоўвае права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Таму выпадкі, парадак і тэрміны прымянення такой меры стрымання павінны быць дэталёва рэгламентаваны законам.

Правяраемая норма часткі пятай артыкула 92 КПК дае магчымасць фактычна абмяжоўваць свабоду абвінавачваемага ў перыяд азнаямлення яго і абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы па заканчэнні максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай без вынясення адпаведнага рашэння кампетэнтнымі органамі, прадугледжанымі ў артыкуле 7 КПК.

У адпаведнасці з артыкулам 8 Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства.

Згодна са Зводам прынцыпаў абароны ўсіх асоб, якія падвяргаюцца затрыманню або зняволенню ў якой бы то ні было форме, зацверджанаму рэзалюцыяй Генеральнай Асамблеі ААН ад 9 снежня 1988 года, ніхто не можа быць затрыманы на перыяд правядзення следства або судовага разбору без пісьмовай пастановы судовага або іншага органа, вызначанага законам (прынцып 37); затрыманая асоба або яе адвакат маюць права ў любы час узбудзіць разбор перад судовым або іншым органам для аспрэчвання законнасці затрымання гэтай асобы з мэтай дасягнення неадкладнага яе вызвалення, калі такое затрыманне з'яўляецца незаконным (прынцып 32); асоба, затрыманая па крымінальнаму абвінавачванню, мае права на судовы разбор у разумныя тэрміны або на вызваленне да суда (прынцып 38).

У артыкуле 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах замацавана, што кожны чалавек мае права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Ніхто не можа быць падвергнуты адвольнаму арышту або ўтрыманню пад вартай. Ніхто не павінен быць пазбаўлены волі інакш, як на такіх падставах і ў адпаведнасці з такой працэдурай, што ўстаноўлены законам.

У адпаведнасці з артыкулам 14 названага Пакта кожны мае права пры разглядзе любога прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачвання на дастатковы час і магчымасці для падрыхтоўкі сваёй абароны і зносіцца з выбраным ім самім абаронцам, быць судзімым без неапраўданай затрымкі.

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны Суд лічыць, што ўтрыманне пад вартай абвінавачваемага ў час азнаямлення яго і абаронцы з матэрыяламі справы павінна ажыццяўляцца ў адпаведнасці з законам на падставе рашэння суда або іншага кампетэнтнага органа.

Аналіз дзеючых нормаў КПК і практыкі іх прымянення паказвае, што абвінавачваемы і яго абаронца ў некаторых выпадках, па незалежных ад іх акалічнасцях, вымушаны знаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы працяглы час, што прыводзіць да перавышэння тэрміну ўтрымання пад вартай, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 КПК. Гэта можа быць абумоўлена не толькі вялікім аб'ёмам крымінальнай справы, але і колькасцю асоб, якія ў адпаведнасці з нормамі КПК маюць права на азнаямленне з матэрыяламі крымінальнай справы. Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, адной з магчымых гарантый права абвінавачваемага на своечасовае і поўнае азнаямленне з матэрыяламі крымінальнай справы, а таксама хуткі судовы разбор можа быць больш дасканалае заканадаўчае рэгуляванне гэтых пытанняў (напрыклад, прадастаўленне абвінавачваемаму і яго абаронцу копій матэрыялаў справы, перш за ўсё копій дакументаў аб працэсуальных дзеяннях, удзельнікам якіх з'яўляўся абвінавачваемы і інш.). Такі падыход прадугледжаны ў крымінальна-працэсуальным заканадаўстве многіх еўрапейскіх дзяржаў.

Канстытуцыйны Суд таксама адзначае, што ў адпаведнасці з артыкуламі 45 і $45^1$ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і артыкулам 317 КПК папярэдняе зняволенне залічваецца судом у тэрмін пакарання пры вынясенні прыгавору. Аналіз заканадаўства і практыкі яго прымянення сведчыць аб тым, што і час знаходжання абвінавачваемага пад вартай у перыяд азнаямлення яго і абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы залічваецца судом у тэрмін пакарання.

Адной з канстытуцыйных гарантый абароны правоў і свабод з'яўляецца судовая абарона.

Згодна с артыкулам $220^1$ КПК скаргі на прымяненне меры стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту, а таксама на прадаўжэнне тэрміну ўтрымання пад вартай прыносяцца ў суд асобай, якая ўтрымліваецца пад вартай, яе абаронцам або законным прадстаўнікам праз асобу, якая праводзіць дазнанне, або следчага. Утрыманне пад вартай па заканчэнні максімальнага тэрміну, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 КПК, толькі для азнаямлення з матэрыяламі крымінальнай справы без санкцыі вызначаных законам органаў або службовых асоб абмяжоўвае і права абвінавачваемага на судовую абарону.

Ацэньваючы літаральны сэнс крымінальна-працэсуальных нормаў і практыку іх прымянення, Канстытуцыйны Суд адзначае, што абвінавачваемы, які ўтрымліваецца пад вартай, у перыяд азнаямлення з матэрыяламі крымінальнай справы звыш максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 КПК, фармальна абмежаваны ў магчымасці абскардзіць у суд утрыманне пад вартай, паколькі ў гэтым выпадку не прадугледжваецца вынясенне рашэння судом або адпаведным пракурорам аб прадаўжэнні тэрміну ўтрымання пад вартай.

Згодна з артыкулам 60 Канстытуцыі кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны. У адпаведнасці з артыкулам 137 Канстытуцыі законы выдаюцца на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, валодаючай вышэйшай юрыдычнай сілай. У выпадку разыходжання закона з Канстытуцыяй дзейнічае Канстытуцыя. Артыкулам 142 Канстытуцыі ўстаноўлена, што законы, указы і іншыя акты, якія дзейнічалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да ўвядзення ў дзеянне Канстытуцыі, прымяняюцца ў частцы, не супярэчнай Канстытуцыі. Таму Канстытуцыйны Суд лічыць, што права на судовую абарону павінна быць забяспечана абвінавачваемаму, які ўтрымліваецца пад вартай і ў перыяд азнаямлення яго і абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы па заканчэнні максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 КПК.

З мэтай забеспячэння абароны правоў і законных інтарэсаў абвінавачваемага, ажыццяўлення належнага правасуддзя і з улікам рэальных тэрмінаў, неабходных для падрыхтоўкі і прыняцця адпаведнага закона, Канстытуцыйны Суд, кіруючыся артыкулам 9 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь», лічыць неабходным вызначыць тэрмін, на працягу якога норма часткі пятай артыкула 92 КПК павінна быць прыведзена ў адпаведнасць з Канстытуцыяй.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкулам 116 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 9, 34, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны Суд

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць частку пятую артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь не адпавядаючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародна-прававым актам у той меры, у якой у ёй адсутнічае правіла аб утрыманні абвінавачваемага пад вартай на падставе пісьмовай пастановы суда або іншага органа, вызначанага законам, у перыяд азнаямлення абвінавачваемага і яго абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы па заканчэнні максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

2. Да ўнясення змяненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс павінна згодна з артыкуламі 137 і 142 Канстытуцыі непасрэдна прымяняцца норма артыкула 60 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасці з якой абвінавачваемы, яго абаронца або законны прадстаўнік маюць права абскардзіць у суд законнасць і абгрунтаванасць утрымання пад вартай у час азнаямлення яго і абаронцы з матэрыяламі крымінальнай справы па заканчэнні максімальнага тэрміну ўтрымання пад вартай, прадугледжанага часткай другой артыкула 92 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

3. Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь не пазней 30 чэрвеня 1999 г. унесці ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь неабходныя змяненні і дапаўненні ў адпаведнасці з гэтым Заключэннем.

4. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце» і «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

5. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня абвяшчэння, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Р.А. ВАСІЛЕВІЧ**

*1 снежня 1998 г., г.Мінск*
*№ 3-73/98*

---

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...ВЫНАХОДЛІВАСЦЬ ПРОЦІПАСТАВІЦЬ ЦЭНАМ

Цяпер я разумею, як становяцца вегетарыянцамі. У першую чаргу, вядома ж, атрымаўшы «ўкус» цэн на мяса. Адзінае, што не «кусаецца» — пельмені ды сасіскі. Апошнія ўражваюць нізкімі цэнамі і рэцэптурай. Магчыма, гэтыя пельмені і сасіскі вельмі карысныя. Але тое, што яны зусім нясмачныя і мясам нават не пахнуць, дык гэта мой сабака пацвердзіць. Ён, паспытаўшы пару разоў такіх пельменяў, на трэці адмовіўся іх есці. Думала, разбэсціўся сабака, капрызнічае. Прыгатаваўшы тую страву сабе, я зразумела жывёліну.

Запэўніваю як чалавек, які месяц не еў яек і забыўся на выгляд і смак смятаны, — жыць без гэтых прадуктаў можна! Праўда, давялося выключыць з рацыёну маёй сям'і бліны, аладкі і сырнікі — тыя стравы, што ідуць «на ўра» і не патрабуюць на прыгатаванне вялікіх затрат часу. Затое часцей можна спажываць тварог у «жывым» выглядзе і налягаць на малочныя кашы. Які там «Марс» ды «Снікерс»! З'еў талерачку аўсяных шматкоў на сняданне — і парадак! Да абеду аб напаўненні страўніка думаць не трэба.

Супы ў меню маёй сям'і дыетычныя. Кідаю ў каструлю ўсяго і паболей, кубік курынага булёну, спецый дадаю, морквай ды цыбуляй запраўляю. Дарэчы, смажыць на масле — злачынства, а на хлеб яго мазаць — тым больш. Супраць сябе ў першую чаргу. Аматары «жывога халестырыну», чым з'яўляецца масла, — прэтэндэнты на атрыманне інфаркту ды інсульту раней часу. Так што прыслухайцеся да парад медыкаў і лепш ужывайце салаты з капустачкі ды бурака.

Пытанне з набыццём вопраткі таксама можна вырашыць проста. Па-першае, крызіс дае, можна сказаць, унікальную магчымасць данасіць старыя рэчы і тыя, што не падабаюцца.

Цана зімовых паліто красамоўна сведчыць, што цяпер гэты тавар — не для ўсіх. Ва ўсякім разе, майму жаданню выйсці з магазіна з пакупкай не суджана было ажыццявіцца. Затое з'явіліся адразу дзве магчымасці: пачысціць шафу і даць волю фантазіі. З нетраў шафы мною былі выцягнуты на свет Божы два старыя паліто і шуба, якую насіла гадоў дзесяць таму, калі была яшчэ школьніцай. Па шчаслівамy супадзенню, тканіна і штучны мех добра спалучаліся паміж сабой. Над гэтым творам рук давялося папрацаваць колькі часу маёй сястры, якая з нажніцамі і іголкай «на ты», балазе, мае прафесійную падрыхтоўку. У выніку я атрымала цёплую зімовую куртку, а свет — яркую пляму, бо спалучэнне драпаў пясочнага і зялёнага колераў выгадна вылучаецца на традыцыйным шэра-чорна-карычневым фоне зімовага натоўпу.

Вось толькі на набыццё абутку даводзіцца траціцца па поўнай праграме. Пакупка зімовых боцікаў са штучнай скуры абыходзіцца ў 3 мільёны, з натуральнай — у 4-5 мільёнаў мінімум. Зэканоміць, аформіўшы заказ на пашыў абутку, не давядзецца. Па-першае, плату за гатовы тавар атэлье індывідуальнага пашыву абутку прымаюць толькі пасля выканання заказу. На сённяшні дзень кліенты сталічных майстэрняў плацяць за «шузы» суму ад 5 мільёнаў рублёў. Па-другое, абутнікі вельмі загружаныя работай, і заказчыкі рызыкуюць атрымаць зімовыя боцікі напрыканцы сезона. Ва ўсякім разе, мінскія атэлье абяцаюць выканаць заказ, аформлены сёння, у пачатку лютага наступнага года.

Наўрад ці вышэйпрапанаваныя рэцэпты сталі для кагосьці навіной. Ды я і не прэтэндую на арыгінальнасць. Аднак чаму б разам, усёй грамадой не стварыць дапаможнік «Як жыць у цяжкія часы»?

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

НАДЗЁННАЕ

**На рэспубліканскай нарадзе па праблемах аграпрамысловага комплексу, якая адбылася ў сакавіку ў Гродне, шмат гаварылася пра стратную работу, пра глыбокі аналіз структуры затрат і канкрэтныя меры па зніжэнню выдаткаў вытворчасці. Аднак напярэдадні прафесійнага свята работнікаў вёскі былі абнародаваны зусім не радасныя весткі: колькасць стратных гаспадарак да канца сёлетняга года не толькі не зменшыцца, а можа ўзрасці больш чым удвая. Нават на Гродзеншчыне, якую часта ставяць у прыклад іншым, кантрасты проста ашаламляльныя. Скажам, летась на вытворчасць 100 тысяч рублёў валавой прадукцыі ў СКП «Кастрычнік» Гродзенскага і «Ленінскі шлях» Карэліцкага раёнаў расходавалі паўтара кілаграма дызпаліва, а ў некаторых іншых — 5 і нават звыш 6 кілаграмаў. «Калі дадаць сюды затраты на бензін і электраэнергію, дык за ўсе гэтыя грошы можна купіць больш прадукцыі, чым яе выраблена», — прагучала на нядаўняй нарадзе ў аблвыканкаме. Такая гора-эканоміка вядзе калгас у нікуды, у даўгавую яму, з якой няма выйсця. Гэта галоўная прычына запазычанасці па зарплаце.**

**Зрэшты, ці павінна тут балець галава ў лідэраў? Мо ім зручней на фоне не надта моцных, а то і зусім слабых калег? Такім было першае пытанне карэспандэнта «Звязды» да начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Гродзенскага райвыканкама Эдуарда БЯЛЯЕВА.**

# ПАДЛІЧЫЛІ І НЕ ПРАСЛЯЗІЛІСЯ

### *У ГАСПАДАРКАХ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА ПАСТАЯННА СКАРАЧАЮЦЬ ВЫДАТКІ ВЫТВОРЧАСЦІ, АДНАК КАЛІ ПАГАРШАЮЦЦА СПРАВЫ Ў ІНШЫХ, ТО СТАНОВІЦЦА ЦЯЖЭЙ І ЛІДЭРАМ*

— Мы не можам быць абыякавымі да трывожных тэндэнцый, якія назіраюцца па краіне ў цэлым. Па-першае, падстаў для эйфарыі няма і ў Гродзенскім раёне. Так, у нас няма стратных гаспадарак, усе працуюць рэнтабельна, з прыбыткам, своечасова плацяць людзям заробак. Аднак затраты на адзінку сельскагаспадарчай прадукцыі, на жаль, яшчэ вельмі высокія. На маю думку, тут у нас ёсць рэзерв прыкладна ў 20—25 працэнтаў. З-за цэнавай палітыкі працягвае заставацца стратнай вытворчасць ялавічыны. Наш «галаўны боль» — птушкаплемрэпрадуктар «Юбілейны», дзе, як і на іншых прадпрыемствах гэтай галіны, высокі сабекошт прадукцыі не кампенсуецца яе рэалізацыйнай цаной. Праблема ў кармах, у недахваце фуражнага збожжа, якім раён, значна павялічыўшы пагалоўе свіней (вышэй узроўню 1990 года), не ў стане забяспечыць сваю птушкагадоўлю. Але спадзяёмся, што прыйдуць лепшыя часы. Паставіць крыж на птушкагадоўлі было б найгрубейшай памылкай. Бо гэта — самая «хуткаспелая» галіна, дыетычныя прадукты харчавання. Дарэчы, калектыў прадпрыемства гарыць жаданнем пераадолець крызіс і пакрысе нарошчвае вытворчасць.

Па-другое, калі пагаршаюцца справы ў іншых рэгіёнах, дык цяжэй становіцца і лепшым гаспадаркам, паколькі яны атрымліваюць дадатковыя заданні ад дзяржавы. Не дзейнічае такі варыянт, калі калгасу даведзены план дзяржаўных нарыхтовак, а астатнюю прадукцыю, дапусцім, 40 працэнтаў яму дазволена рэалізаваць па свайму меркаванню. Вытворца б цвёрда ведаў, што вось гэта — дзяржаве, а гэта — прадае з найбольшай для сябе выгадай. Такая сістэма стымулявала б далейшы рост вытворчасці, і адпаведна павялічваліся б аб'ёмы дзяржаўных нарыхтовак.

Такім чынам, не толькі для ўсёй краіны, але і для канкрэтных гаспадарак лепш, каб іх калегі з іншых раёнаў таксама працавалі някепска. І вопыт, варты пераймання, мы ад іншых не хаваем.

**— Напрыклад, што?**

— Возьмем свінагадоўлю. За апошнія гады ў гэтай галіне зроблена шмат, аднак у накірунку энергазберажэння праектныя арганізацыі працуюць слаба. Летась мы задаліся мэтай усё ж зменшыць затраты да мінімуму. Адшукалі ў фермераў за мяжой каштоўны вопыт (з серыі ўсё геніяльнае — проста) і пачалі ўкараняць тэхналогію так званай мяккай падсцілкі. Не буду паглыбляцца ў дэталі (спецыялісты іх ведаюць) і толькі падкрэслю вынік: значна скарочаны тэрмін адкорму, практычна адсутнічаюць энергазатраты, для дасягнення адпаведных прывагаў свіней патрабуецца прыкладна на 30 працэнтаў менш кармавых адзінак. У памяшканні на 1200 галоў няма ніводнага электрарухавіка, транспарцёра. Калі пры звычайнай тэхналогіі было 200 электралямпачак, дык цяпер хапае і пяці, прычым, выкарыстоўваюцца яны па меры неабходнасці. Непараўнальна менш і фізічнай працы: два-тры чалавекі здольны абслужыць усю ферму. Па-новаму гадуюць свіней ужо многія нашы гаспадаркі — «Беларусь», імя Дзеншчыкова, «Кастрычнік», «Гродзенскі», «Ніва»... За кошт уласнага збожжа заняліся свінагадоўляй у «Прагрэсе» і «Пагранічным», цудоўны свінарнік будзе ў «Іскры». Зразумела, што, каб атрымаць выгаду, трэба спачатку патраціцца, але аўчынка вартая вырабу. Новая тэхналогія ўжо «пайшла», напрыклад, у Ваўкавыскім, Дзятлаўскім раёнах. Прыязджалі за вопытам і з іншых абласцей, аднак яго ўкараненне, па нашай інфармацыі, далёка не ўсюды атрымліваецца. Хаця акупляецца гэтая тэхналогія за год, а то і хутчэй. Рэнтабельнасць свінагадоўлі пры ёй па ўласных нормах не менш за 100 працэнтаў.

Падобную тэхналогію мы цяпер спрабуем укараніць і на адкорме буйной рагатай жывёлы, у малочнай вытворчасці —беспрывязное ўтрыманне кароў, даільная зала. Шчыра кажучы, некаторыя даяркі, ды і спецыялісты, ставяцца да навацыі хваравіта. Ім няпроста паверыць, што можна абысціся без соцень метраў малакаправодаў, транспарцёраў для гноевыдалення. Бытуе ўяўленне, што бычок на адкорме павінен абавязкова быць на прывязі, а найлепшае заспакаяльнае «лякарства» для яго — электрагірлянда. Мы пераканаліся: нічога гэтага не патрэбна. У натуральных умовах, на мяккай падсцілцы (саломы ў нас дастаткова) жывёла роўнаўзроставай групы паводзіць сябе спакойна пры адной простай умове: калі ў кармушцы ёсць сапраўдны корм.

Да нарыхтоўкі кармоў мы падыходзім вельмі строга, размежавалі адказнасць канкрэтных спецыялістаў. У былыя часы за вытворчасць і якасць кармоў практычна цалкам адказваў галоўны заатэхнік гаспадаркі. Цяпер гэта не яго пытанні. Ён дае заданні службе земляробства — менавіта за ёй уся паўната адказнасці і за колькасныя, і якасныя паказчыкі. І калі я, скажам, разбіраюся з прычынамі дрэннай якасці кармоў, дык запрашаю на ферму не заатэхніка, а загадчыка вытворчага ўчастка, агранома. Такое размежаванне адказнасці, па вялікаму рахунку, таксама з'яўляецца адным з рэсурсазберагальных фактараў.

Дарэчы, прыкладна трэцяя частка затрат выпала ў нас пасля таго, як паўсюдна перайшлі на двухразовую дойку кароў, што робіцца ва ўсім свеце. Пры гэтым надоі не зменшыліся, а нават павялічыліся. У адной гаспадарцы неяк паспрабавалі вярнуцца да трохразовага рэжыму, маўляў, будзе больш малака, аднак наадварот — прайгралі. Да таго ж, гэта непавага ў дачыненні да даяркі — прымушаць яе тройчы ў дзень хадзіць на ферму. Няма такой неабходнасці, трэба мець дастаткова высакаякасных кармоў. У гаспадарках раёна ёсць паўтарагадовы запас, і лішкі яны нават прадаюць іншым.

**— А які галоўны рэзерв у земляробстве?**

— Асноўная праблема тут звязана з адсутнасцю надзейных машын. Парк вельмі зношаны, і нават новая тэхніка не адпавядае сучасным патрабаванням. Скажам, у СКП «Кастрычнік» набылі «Ягуар» для нарыхтоўкі кармоў. Гомельскае «Палессе» быццам бы і нядрэнная машына, аднак з вышэйпамянёным «чужаземцам» яе, на жаль, не параўнаеш. Адзін «Ягуар» выконвае такі аб'ём работы, на які патрэбна некалькі адзінак айчыннай тэхнікі, перавага ў яго і па надзейнасці, расходаванню паліва. Канешне, мы хацелі б аддаваць перавагу выключна айчыннай тэхніцы, бо прасцей вырашаць пытанні з яе рамонтам. Аднак нашы прамыслоўцы павінны зразумець, што механізатары і спецыялісты калгасаў не будуць мірыцца з невысокім тэхналагічным узроўнем машын, а то і бракам пры іх вырабе. Такая «дробязь». У нас сёння маюцца лічыльнікі на газ, гарачую ваду. На імпартнай тэхніцы таксама ёсць лічыльнік, які кантралюе, колькі гаручага заліта ў бак і прайшло праз рухавік. А нашым машынам гэта чамусьці непатрэбна. Адсюль і крадзяжы, і нядбайныя адносіны да паліва.

На правільным шляху, мне здаецца, Мінскі трактарны завод. Ужо не першы год СКП «Абухава» выпрабоўвае яго навейшую тэхніку і можна ўпэўнена сцвярджаць, што ў параўнанні з «К-700» і «Т-150» яна самая эканамічная, расходуе на гектар ворыва працэнтаў на 30 дызпаліва менш.

**— Эдуард Сямёнавіч, што ж характэрна для «почырка» гродзенскіх аграрнікаў?**

— Напэўна, перш за ўсё тое, што кіраўнікі гаспадарак не падддаліся агульным тэндэнцыям недысцыплінаванасці, разгубленасці, не кінулі справу на самацёк. Усё вызначаюць адносіны людзей да сваёй справы. Калі толькі чакаць, што нехта нешта дасць, дык нічога добрага не атрымаецца.

**Гутарку вёў Барыс ПРАКОПЧЫК.**



**Знаёмцеся: Надзея Рэутовіч, малады жывёлавод агагандлёвай фірмы «Ждановічы» Мінскага раёна. Гаспадарка, дзе яна працуе, вядома вялікімі надоямі малака — амаль па 5000 кілаграмаў на кожную карову за год. Да таго ж прадукцыя жывёлаводаў прызнана найлепшай па сваіх санітарна-гігіенічных і спажывецкіх якасцях.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# РАГУЛІ СА ЗНАКАМ ІКС,

### або Чаму немагчыма ўстанавіць уладальнікаў кароў, якія не пастаўляюцца на дзяржзаказ, а «плывуць» да фірмачоў

Ёсць у Гомелі вытворча-камерцыйная фірма «Белаграпрадукт», якая, згодна з дагаворамі, набывае мяса і жывёлу ў сельгаспрадпрыемстваў, прыватных прадпрымальнікаў, фірмаў, насельніцтва і вырабляе з іх мясапрадукты і каўбасу. І вось такая дэталь: калі тое мяса ці жывёла прымаецца ад насельніцтва, то разлік з прадаўцамі робіцца жывымі грашыма і без уплаты падатку на карысць дзяржавы. Гэтую акалічнасць улічваюць рознага роду дзялкі.

Вось накладныя, якія сведчаць, што каўбасны цэх фірмы прыняў 1631 кілаграм ялавічыны ад жыхароў вёскі Камсамольск Рэчыцкага раёна П. Вераб'я, Я. Зубок, В. Незгурэнкі, В. Усхопава, Н. Яфцені і іншых. А вось і дагаворы іхнія з фірмай, афармленыя на падставе даведак, выдадзеных Камсамольскім сельвыканкамам. У іх чорным па беламу напісана, што ўказаныя жыхары самі выгадавалі жывёлу і маюць права здаць іх ці мяса ў нарыхтоўчыя арганізацыі за наяўны разлік або рэалізаваць на рынку без утрымання падатку. Маецца тут дакумент і аб тым, што прыёмка мяса па якасці была зроблена на аснове ветэрынарных пасведчанняў, выдадзеных указаным грамадзянам галоўным ветурачом Рэчыцкай ветстанцыі В. Налегачом: мяса прыгоднае для перапрацоўкі. Але вось спецыялісты Камітэта дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці робяць сустрэчную праверку і выяўляюць даволі цікавыя рэчы. Аказваецца, тыя даведкі былі афармлены сакратаром Камсамольскага сельвыканкама В. Бянчук з ведама яго старшыні Н. Абібак і па дамоўленасці са здатчыкамі мяса: яны пастаўляюць ялавічыну ў Гомель. Гэта — на паперы. А на справе — ніхто нікуды тое мяса не здаваў, акрамя Я. Зубок і В. Усхопава. Прычым першая патлумачыла работнікам КДК, што і карову, і даведку сельвыканкама яна перадала нейкаму грамадзяніну М. Мірашану для здачы жывёлы ў Гомелі. Іншыя ж здатчыкі заявілі, што яны паставілі сваіх каровак хто ў мясцовы каапзаготпрам, а хто на мясакамбінаты, што, аднак, не пацвердзілася пры запытах туды з боку спецыялістаў Камітэта дзяржкантролю.

Даў ім свае тлумачэнні і вышэйпамянёны В. Налягач: ён выдаў ветэрынарныя пасведчанні на ялавічыну па просьбе дырэктара вучэбнай гаспадаркі Рэчыцкага ПТВ-178 А. Гапоненкі. А работнікі забойнага цэха вучэбнай гаспадаркі дапоўнілі: па ўказанню А. Гапоненкі яны тут забілі пятнаццаць кароў для нейкага Мірашана. Далей — болей. Забой тых кароў быў афармлены дагаворам, падпісаным А. Гапоненкам і М. Мірашанам як дырэктарам малдаўскай фірмы, якая на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не зарэгістравана ў якасці падаткаплацельшчыка, што азначае: фірма дзейнічае незаконна. Больш таго, не афармляліся ніякія дакументы на перадачу кароў у забойны цэх, на водпуск адтуль мяса і да т. п., што ўказвае на тое, што паслугі пад выглядам фірмы былі аказаны прыватніку, які займаўся скупкай і перапродажам жывёлы.

«Ліпа» была выяўлена і ў наступных выпадках. У «Белаграпрадукце» маюцца афармленыя дагаворы на закупку мяса ў грамадзян Рагіньскага сельсавета Буда-Кашалёўскага раёна — Н. Кавалёвай, В. Сычовай, В. Карпенка, А. Швед, А. Лагодзіча ў колькасці 2596 кілаграмаў, якое яны атрымалі ад кароў, выгадаваных у сваіх гаспадарках. Аднак вось такая «маленькая» няўвязачка: у ходзе сустрэчнай праверкі аказалася, што па ўліковых даных сельвыканкама ва ўказаных грамадзян ніякіх кароў не было і ніякіх даведак аб іх наяўнасці тым людзям сельвыканкам не даваў. Адкуль жа тады на даведках вуглавы штамп і пячатка сельвыканкама? На гэта пытанне яго старшыня В. Гаруноў і сакратар Л. Ісанава толькі развялі рукамі.

Выклікае здзіўленне і такі факт. З А. Лагодзічам фірма «Белаграпрадукт» заключыла два дагаворы. Дык вось, даныя аб яго месцы жыхарства, наяўнасці гаспадаркі, подпісы здатчыка ялавічыны (А. Лагодзіча) на ўсіх дакументах не адпавядаюць адзін аднаму. Аднак у фірмы гэта не выклікала сумнення, ці ўсё тут у парадку, ці няма нейкага падману? І яму было выплачана 85 млн. 020 тысяч рублёў. А на прозвішчы Н. Кавалёвай, В. Сычовай, В. Карпенка, А. Швед з касы фірмы па расходных ордэрах выдадзена 84 млн. 170 тысяч рублёў. Хто іх атрымаў — застаецца загадкай.

А як зразумець вось гэта? Старшыня Бярвенаўскага сельсавета Буда-Кашалёўскага раёна Н. Зайцаў на пытанне, чаму былі выдадзены фіктыўныя даведкі на імя жыхароў Гомеля В. Кавалёва і Я. Нікалаева, якія быццам бы выгадавалі на сваім падвор'і буйную рагатую жывёлу вагой у 500 і 680 кілаграмаў адпаведна, патлумачыў наступнае. Ён па-сяброўску (але ў парушэнне заведзенага парадку) перадаў незапоўненыя бланкі ўказаных даведак старшыні праўлення калгаса «Чырвоная зорка» гэтага ж раёна Г. Стахаўцу па просьбе апошняга. Ветурач гаспадаркі В. Васількоў аформіў неабходныя для здачы жывёлы дакументы з указаннем «паходжання жывёлы» — калгас «Чырвоная зорка». У выніку і быў афармлены закуп той жывёлы ад прыватнікаў В. Кавалёва і Я. Нікалаева, вядома ж, без уплаты падатку (дарэчы, ва ўказаным выпадку на іх імя было выдадзена 43 млн. 800 тысяч рублёў).

За тры кварталы гэтага года «Чырвоная зорка» прадала дзяржаве 6,3 тоны мяса пры ўстаноўленым дзяржзаказе 20 тон. Гэта значыць, адну трэць да задання. Затое тут шырока адчынены дзверы для так званых няпланавых спажыўцоў: прыватных прадпрымальнікаў, грамадзян, асобы якіх пакуль што не ўдалося ўстанавіць. Гэта значыць, што рэалізацыя жывёлы была незаконнай. Усяго за дзевяць месяцаў такім чынам было прададзена за наяўны разлік (паводле даных калгаса) 16 кароў жывой вагой 3,9 тоны, а кантралёры знайшлі сляды яшчэ 10 кароў, пушчаных на мяса, якое быццам бы было прададзена па нізкіх цэнах працаўнікам калгаса, а на самай справе — «патрэбным» людзям.

**Уладзімір АЗЁРНЫ.**

# НАШЧАДКІ ВАЯЎНІЧЫХ ВІКІНГАЎ ЦЯПЕР АТРЫМЛІВАЮЦЬ БЛІСКУЧЫЯ ПЕРАМОГІ НА ФЕРМЕРСКІХ ПАЛЕТКАХ

**Нядаўна наша рэдакцыя атрымала запрашэнне ад Міжнароднай федэрацыі журналістаў-аграрнікаў наведаць 43-ці кангрэс гэтай арганізацыі, які адбудзецца ў Даніі ў жніўні наступнага года. Дзякуй, як кажуць, за памяць, але наша фінансавае становішча, на жаль, наўрад ці дазволіць каму-небудзь з супрацоўнікаў выехаць у Капенгаген. А даведацца нашым чытачам пра здабыткі дацкіх фермераў было цікавым і карысным. Бо гэта маленькая краіна ўжо не першы год уражвае свет сваімі дасягненнямі ў аграпрамысловым сектары, паказвае ўсім прыклад, у тым ліку і нам, як можна гаспадарнічаць на зямлі ў не вельмі спрыяльных кліматычных умовах. Таму нам падаліся вартымі ўвагі тыя факты і лічбы, што ўтрымліваюцца ў інфармацыйным матэрыяле, які мы атрымалі разам з запрашэннем.**

Сёння ў сельскай гаспадарцы Даніі занята ўсяго 107 тысяч чалавек, ці 4,3 працэнта ад усёй колькасці працуючых. І гэты «абмежаваны» кантынгент аграрнікаў не толькі забяспечвае сваё насельніцтва разнастайнай, якаснай (у адпаведнасці з высокімі еўрапейскімі стандартамі) харчовай прадукцыяй, але ў велізарных аб'ёмах, на многія сотні мільёнаў долараў, экспартуе яе ў больш чым 175 краін свету. Пераважна членам Еўрапейскага саюза, у ЗША, Японію, на Сярэдні Усход.

На аграрны сектар прыпадае 20 працэнтаў усяго дацкага экспарту. Першапачаткова ўся гэтая канкурэнтаздольная прадукцыя вырошчваецца і гадуецца ў пераважнай большасці на невялікіх фермах, сярэдні памер якіх прыкладна 40,6 гектара. Галоўная прычына адсутнасці велізарных комплексаў па адкорму жывёлы. Захаванне чысціні глебы і вады, а значыць, і здароўя нацыі, важней за эканамічныя меркаванні асобных вытворцаў. Таму ў цэлым дацкае заканадаўства накіравана супраць празмернай індустрыялізацыі сельгасвытворчасці.

Аднак гэта, тым не менш, не стала вялікай перашкодай на шляху росту прадукцыйнасці працы мясцовых фермерскіх гаспадарак. Хаця іх агульная колькасць паступова скарачаецца, аднак ураджаі пшаніцы, траў, аўса і жыта няўхільна растуць. Больш за палову ўсяго аб'ёму збожжавых ідзе на прыгатаванне фуражу, кармоў, якімі Данія забяспечвае сябе амаль поўнасцю. А імпартуе частку багатых пратэінамі камбікармоў. Бо толькі свіней тут штогод здаюць на ўбой каля 21 мільёна. 75 працэнтаў свініны і прадуктаў з яе ідзе на экспарт.

Не менш важны малочны сектар. 4,5 мільёна тон малака штогод выrабляюць дацкія фермы, на кожнай з якіх утрымліваецца прыкладна 50 кароў. Сярэдні надой ад кожнай каровы на мяжы 7500 кілаграмаў. Дарэчы, дойны статак краіны складае прыкладна трэць (700 тысяч) ад усяго 2-мільённага статка буйной рагатай жывёлы краіны.

Дасціпныя датчане падлічылі, што 4,21 мільёна курэй штогод нясуць 88 мільёнаў яек.

І хаця ў апошнія гады назіраецца тэндэнцыя да ўзбуйнення фермерскіх гаспадарак, яны ў пераважнай сваёй большасці па-ранейшаму застаюцца невялікімі сялянскімі прадпрыемствамі, дзе ўся справа ў руках мужа, жонкі і дзяцей. Прычым у большасці выпадкаў жонка імкнецца недзе ўладкавацца на дадатковую працу, бо даходы ад фермы не заўсёды пакрываюць патрэбы сямейнага бюджэту.

Таму фермеры развіваюць іншыя віды вытворчасці. Сёння Данія — адзін з вядучых экспарцёраў насення траў. Тут шмат вырошчваюць кветак. Добры прыбытак дае футра норкі. На яе развядзенні ўжо спецыялізуюцца каля 3000 фермераў.

Тут трэба мець на ўвазе, што аграрны сектар дацкай эканомікі фарміраваўся на працягу стагоддзяў, а праца земляроба заўсёды была ў пашане. Відаць, не выпадкова афіцыйным патронам маючага адбыцца міжнароднага кангрэса журналістаў з'яўляецца дацкі прынц Іахім, які, між іншым, не толькі валодае тысячагектарным маёнткам, але і самастойна кіруе ім. Карацей, таксама аграрнік.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека

**ПРЫНЯТА І АБВЕШЧАНА РЭЗАЛЮЦЫЯЙ 217 А (III) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН АД 10 СНЕЖНЯ 1948 ГОДА**

## ПРЭАМБУЛА

***Прымаючы пад увагу,*** што прызнанне годнасці, уласцівай усім членам чалавечай сям'і, роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру; і

***прымаючы пад увагу,*** што пагарджанне і знявага правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў, якія абураюць сумленне чалавецтва, і што стварэнне такога свету, у якім людзі будуць мець свабоду слова і перакананняў і будуць свабодныя ад страху і беднасці, абвешчана як высокае імкненне людзей; і

***прымаючы пад увагу,*** што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся ўладай закона з мэтай забеспячэння таго, каб чалавек не быў вымушаны звяртацца, як да апошняга сродку, да паўстання супраць тыраніі і прыгнёту; і

***прымаючы пад увагу,*** што неабходна садзейнічаць развіццю дружалюбных адносінаў паміж народамі; і

***прымаючы пад увагу,*** што народы Аб'яднаных Нацый пацвердзілі ў Статуце сваю веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы і ў раўнапраўе мужчын і жанчын і вырашылі садзейнічаць сацыяльнаму прагрэсу і паляпшэнню ўмоў жыцця пры большай свабодзе; і

***прымаючы пад увагу,*** што дзяржавы-члены абавязаліся садзейнічаць, у супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, усеагульнай павазе і захаванню правоў чалавека і асноўных свабод; і

***прымаючы пад увагу,*** што ўсеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод мае вялізнае значэнне для поўнага выканання гэтага абавязацельства,

**ГЕНЕРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ АБВЯШЧАЕ ГЭТУЮ УСЕАГУЛЬНУЮ ДЭКЛАРАЦЫЮ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА**

ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, пастаянна маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабод і забеспячэнню, шляхам нацыянальных і міжнародных прагрэсіўных мерапрыемстваў, усеагульнага і эфектыўнага прызнання і ажыццяўлення іх як сярод народаў дзяржаў — членаў Арганізацыі, так і сярод народаў тэрыторый, што знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй.

**Артыкул 1**

Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны абыходзіцца адзін з адным у духу брацтва.

**Артыкул 2**

Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як, напрыклад: у дачыненні да расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага становішча.

Акрамя таго, не павінна праводзіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога ці міжнароднага статусу краіны ці тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, з'яўляецца гэтая тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіруемай ці як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце.

**Артыкул 3**

Кожны чалавек мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

**Артыкул 4**

Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве ці ў паднявольным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх іх відах.

**Артыкул 5**

Ніхто не павінен падвяргацца катаванням ці жорсткім, бесчалавечным або зневажаючым яго годнасць відам абыходжання і пакарання.

**Артыкул 6**

Кожны чалавек, дзе б ён ні знаходзіўся, мае права на прызнанне яго правасуб'ектнасці.

**Артыкул 7**

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усякага адрознення, на роўную абарону закона. Усе людзі маюць права на роўную абарону ад якой бы там ні было дыскрымінацыі, якая парушае гэтую Дэкларацыю, і ад якога б там ні было падбухторвання да такой дыскрымінацыі.

**Артыкул 8**

Кожны чалавек мае права на эфектыўнае аднаўленне ў правах кампетэнтнымі нацыянальнымі судамі ў выпадках парушэння яго асноўных правоў, прадастаўленых яму канстытуцыяй ці законам.

**Артыкул 9**

Ніхто не можа быць падвергнуты адвольнаму арышту, затрыманню ці выгнанню.

**Артыкул 10**

Кожны чалавек, для вызначэння яго правоў і абавязкаў і для ўстанаўлення абгрунтаванасці прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачання, мае права, на аснове поўнай роўнасці, на тое, каб яго справа была разгледжана публічна і з захаваннем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і справядлівым судом.

**Артыкул 11**

1. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ва ўчыненні злачынства, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасць не будзе ўстаноўлена законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору, пры якім яму забяспечваюцца ўсе магчымасці для абароны.

2. Ніхто не можа быць асуджаны за злачынства на падставе ўчынення якога-небудзь дзеяння ці за бяздзеянне, якія ў час іх учынення не з'ўляліся злачынствам па нацыянальных законах ці па міжнароднаму праву. Не можа таксама накладвацца пакаранне больш цяжкае, чым тое, якое магло быць применена ў той час, калі злачынства было ўчынена.

**Артыкул 12**

Ніхто не можа падвяргацца адвольнаму ўмяшанню ў яго асабістае і сямейнае жыццё, адвольным замахам на недатыкальнасць яго жылля, тайну яго карэспандэнцыі ці на яго гонар і рэпутацыю. Кожны чалавек мае права на абарону закона ад такога ўмяшання ці такіх замахаў.

**Артыкул 13**

1. Кожны чалавек мае права свабодна перасоўвацца і выбіраць сабе месцапражыванне ў межах кожнай дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну.

**Артыкул 14**

1. Кожны чалавек мае права шукаць прыстанішча ад праследавання ў іншых краінах і карыстацца гэтым прыстанішчам.

2. Гэтае права не можа быць выкарыстана ў выпадку праследавання, якое сапраўды заснавана на ўчыненні непалітычнага злачынства ці дзеяння, што супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Артыкул 15**

1. Кожны чалавек мае права на грамадзянства.

2. Ніхто не можа быць адвольна пазбаўлены свайго грамадзянства ці права змяніць сваё грамадзянства.

**Артыкул 16**

1. Мужчыны і жанчыны, якія дасягнулі паўналецця, маюць права без усякіх абмежаванняў па прыметах расы, нацыянальнасці ці рэлігіі браць шлюб і асноўваць сям'ю. Яны карыстаюцца аднолькавымі правамі ў дачыненні да ўзяцця шлюбу, у час знаходжання ў шлюбе і ў час яго скасавання.

2. Шлюб можа быць узяты толькі пры свабоднай і поўнай згодзе абодвух бакоў, якія бяруць шлюб.

3. Сям'я з'яўляецца натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства і мае права на абарону з боку грамадства і дзяржавы.

**Артыкул 17**

1. Кожны чалавек мае права валодаць маёмасцю як аднаасобна, так і разам з іншымі.

2. Ніхто не павінен быць адвольна пазбаўлены сваёй маёмасці.

**Артыкул 18**

Кожны чалавек мае права на свабоду думак, сумлення і рэлігіі; гэта права ўключае свабоду мяняць сваю рэлігію ці перакананні і свабоду веравызнання ці перакананні як аднаасобна, так і разам з іншымі, публічным ці прыватным парадкам у вучэнні, богаслужэнні і выкананні рэлігійных і рытуальных абрадаў.

**Артыкул 19**

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выяўленне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.

**Артыкул 20**

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

2. Ніхто не можа быць прымушаны ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

**Артыкул 21**

1. Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна ці пры дапамозе свабодна выбраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэтая воля павінна знаходзіць сабе выяўленне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасавання ці пры дапамозе іншых раўназначных формаў, якія забяспечваюць свабоду галасавання.

**Артыкул 22**

Кожны чалавек, як член грамадства, мае права на сацыяльнае забеспячэнне і на ажыццяўленне неабходных для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця яго асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах пры дапамозе нацыянальных намаганняў і міжнароднага супрацоўніцтва і ў адпаведнасці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы.

**Артыкул 23**

1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар работы, на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы і на абарону ад беспрацоўя.

2. Кожны чалавек, без якой-небудзь дыскрымінацыі, мае права на роўную аплату за роўную працу.

3. Кожны працуючы мае права на справядлівую і здавальняючую ўзнагароду, якая забяспечвае дастойнае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і і дапаўняемае, пры неабходнасці, іншымі сродкамі сацыяльнага забеспячэння.

4. Кожны чалавек мае права ствараць прафесійныя саюзы і ўваходзіць у прафесійныя саюзы для абароны сваіх інтарэсаў.

**Артыкул 24**

Кожны чалавек мае права на адпачынак і вольны час, уключаючы права на разумнае абмежаванне рабочага дня і на аплатны перыядычны адпачынак.

**Артыкул 25**

1. Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы ежу, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і, і права на забеспячэнне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, удоўства, надыходу старасці ці іншага выпадку страты сродкаў да існавання па незалежных ад яго абставінах.

2. Мацярынства і дзяцінства даюць права на асаблівую апеку і дапамогу. Усе дзеці, народжаныя ў шлюбе ці па-за шлюбам, павінны карыстацца аднолькавай сацыяльнай абаронай.

**Артыкул 26**

1. Кожны чалавек мае права на адукацыю. Адукацыя павінна быць бясплатнай сама меней у тым, што датычыцца пачатковай і агульнай адукацыі. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай. Тэхнічная і прафесійная адукацыя павінна быць агульнадаступнай, і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на аснове здольнасцяў кожнага.

2. Адукацыя павінна быць накіравана на поўнае развіццё чалавечай асобы і на павелічэнне павагі да правоў чалавека і асноўных свабод. Адукацыя павінна садзейнічаць узаемаразуменню, цярплівасці і дружбе паміж усімі народамі, расавымі і рэлігійнымі групамі і павінна садзейнічаць дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па падтрыманню міру.

3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей.

**Артыкул 27**

1. Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, атрымліваць асалоду ад мастацтва, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца яго дабротамі.

2. Кожны чалавек мае права на абарону яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, якія з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных ці мастацкіх прац, аўтарам якіх ён з'яўляецца.

**Артыкул 28**

Кожны чалавек мае права на сацыяльны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, выкладзеныя ў гэтай Дэкларацыі, могуць быць цалкам ажыццёўлены.

**Артыкул 29**

1. Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадствам, у якім толькі і магчыма свабоднае і поўнае развіццё яго асобы.

2. Пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен падвяргацца толькі такім абмежаванням, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабод іншых і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве.

3. Ажыццяўленне гэтых правоў і свабод ні ў якім разе не павінна супярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Артыкул 30**

Нішто ў гэтай Дэкларацыі не можа быць вытлумачана як прадастаўленне якой-небудзь дзяржаве, групе асоб ці асобным асобам права займацца якой-небудзь дзейнасцю ці ўчыняць дзеянні, накіраваныя на знішчэнне правоў і свабод, выкладзеных у гэтай Дэкларацыі.

---

## У СВЕЦЕ

### КОЖНЫ ШОСТЫ ЗЯМЛЯНІН НЕ ЎМЕЕ НІ ЧЫТАЦЬ, НІ ПІСАЦЬ

**У дакладзе Камісіі па справах дзяцей UNICEF гаворыцца аб тым, што амаль мільярд чалавек, якія пражываюць у розных краінах свету, не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць.**

Пры гэтым дзве трэці з іх — жанчыны. Сотні мільёнаў дзяцей не маюць магчымасці хадзіць у школу, паведамляецца ў дакладзе.

А чацвёра з дзесяці вучняў вымушаны пакінуць школу яшчэ да таго, як яны навучацца чытаць і пісаць. Часцей за ўсё дзеці не маюць магчымасці хадзіць у школу або дачасна пакідаюць яе з-за адсутнасці ў іх краінах правільнай палітыкі ў сферы адукацыі, канстатуюць спецыялісты. З-за сваёй непісьменнасці мільёны людзей пазбаўлены магчымасці атрымаць добрую работу.

**Інэса МОІН, БЕЛТА.**

### «У 80-я ГАДЫ ТЭТЧЭР БЫЛА ЗАКАХАНА Ў РЭЙГАНА»

«Тэтчэр у часы свайго знаходжання на пасадзе брытанскага прэм'ер-міністра адчувала моцную цягу да тагачаснага амерыканскага прэзідэнта Рональда Рэйгана. Палітычная блізкасць і асабістая сімпатыя паміж двума лідэрамі была заўважная, але, калі верыць рубрыцы «Чуткі» нью-йоркскага таблоіда «Нью-Йорк пост», «жалезная лэдзі адчувала слабасць да Рона».

Шэф пратакола рэйганаўскага Белага дома Лакі Рузвельт растлумачыла, што брытанская дзяячка, якая прагнула зрабіць добрае ўражанне на прэзідэнта ЗША, у час адной сустрэчы ў вярхах з Рэйганам мяняла сукенкі 5 разоў на дзень. «Тэтчэр тады фліртавала з Рэйганам, паміж імі была відавочна ўзаемная цяга», — дадала Рузвельт. Гэтыя прызнанні знаходзяцца ў кнізе «Жаночая ўлада», якая нядаўна апублікавана ў Злучаным Каралеўстве, прыводзяцца чуткі аб жанчынах, якія адыгрывалі важную ролю ў палітыцы і бізнесе».

**«Кар'ер дзела сера»** *(Італія).*

### «НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ ЖАНЧЫНЫ СТАГОДДЗЯ»

**«Мужчынскі часопіс «Плейбой» склаў «табель аб рангах» 100 найпрыгажэйшых жанчын.**

Рэдакцыя амерыканскага часопіса выбрала самай прыгожай жанчынай XX стагоддзя Мэрылін Манро. На другім месцы таксама бландзінка — Джэйн Мэнсфілд. Брунетка Рэкел Уэлч удастоілася бронзавага прыза.

На чацвёртым месцы француженка Брыжыт Бардо. Далей: Сафі Ларэн, Элізабет Тэйлар і Памела Андэрсан. Марлен Дзітрых на 32-м месцы, Клаўдзіа Шыфер — на 59-м.

**«Вельт»** *(ФРГ).*

### УКРАІНЕ ПАГРАЖАЮЦЬ НЕПРЫЕМНАСЦІ Ў САВЕЦЕ ЕЎРОПЫ

**Як паведаміла прэс-служба Савета Еўропы, назіральны камітэт Парламенцкай Асамблеі гэтай арганізацыі днямі прыняў рэзалюцыю і рэкамендацыю на карысць выключэння дэлегацыі Украіны з Асамблеі, калі ў краіне не будзе дасягнуты хуткі прагрэс на шляху да дэмакратыі.**

Украіне ставіцца ў віну адсутнасць падзелу ўладаў, няўдача ў рэалізацыі дыялога паміж Канстытуцыйным і Вярхоўным судамі, запавольванне рэформаў і інш. Камітэт запатрабаваў правядзення расследвання заяў наконт дрэннага ўтрымання і катаванняў людзей у месцах зняволення. Камітэт таксама прымушае дзяржаўныя СМІ праводзіць нейтральную, незалежную рэдакцыйную лінію і падкрэслівае, што кожнае легальнае дзеянне супраць апазіцыйнай прэсы павінна адпавядаць устаноўленым стандартам.

**Леанід ТУГАРЫН.**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Унікальная аперацыя па перасадцы адразу пяці ўнутраных органаў праведзена ў гётэборгскай Усходняй бальніцы. Пяцігадовай дзяўчынцы была праведзена трансплантацыя пячонкі, страўніка, 12-перснай кішкі, падстраўнікавай залозы, тонкага кішэчніка. Стан пацыенткі пасля аперацыі ацэньваецца як цяжкі, але стабільны.

**ІТАР—ТАСС**

*Камп'ютэрны праграміст з Нью-Йорка Койлі Крыстаф распрацаваў новую праграму, якая дазваляе ўбачыць, як будзе выглядаць чалавек праз 10, 20 і нават 30 гадоў. У камп'ютэр закладваецца фотаздымак чалавека, затым уводзяцца даныя аб ім: сацыяльнае асяроддзе, асабістыя звычкі, выхаванне і г. д. І машына выдае выгляд аб'екта праз столькі гадоў, колькі заказана. Асноўнымі кліентамі праграміста з'яўляюцца жаніхі, якія жадаюць убачыць у будучым сваіх жонак. Вынік бывае настолькі шакіруючым, што некаторыя адмаўляюцца жаніцца.*

**«Экспресс-газета»**

За 10 тысяч долараў прададзена на выставе ў Вене 27 карцін, якія «напісаны» арангутангам з заапарка ў аўстрыйскім горадзе Шэнбрун. Малпа па мянушцы Нонья доўга думае, перш чым выбраць фарбы, каштуе іх на смак, знішчае карціны, якія ёй не падабаюцца. Карціны «мастачкі» абстрактныя, але гарманічныя, іх можна параўнаць з малюнкамі малалетніх дзяцей, сцвярджае прадстаўнік заапарка.

**«Труд».**

## ПАДАЗРАЕЦЦА КАСІР

Магчыма, шэрае жыццё, а магчыма, нейкія іншыя абставіны падштурхнулі жанчыну да злачынства: яна запусціла руку ў касу роднага прадпрыемства. У дадзенай сітуацыі выказваць нейкія меркаванні заўчасна, тым больш, што следства не завершана. Па папярэдніх жа даных, касірка камбіната ў Віцебску падазраецца ў крадзяжы буйной сумы. Як нам удалося высветліць у МУС, грошы браліся з касы прадпрыемства ў кастрычніку—снежні гэтага года. Такім чынам адтуль знікла 123 мільёны рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

У сталіцы Фрунзенскай пракуратурай узбуджана крымінальная справа супраць старшыні жыллёва-будаўнічага кааператыва. Ён падазраецца ў тым, што ўзяў хабар у памеры 850 долараў ЗША у прыватнага прадпрымальніка за прадастаўленне падсобнага памяшкання пад офіс.

**Ігар ГРЫШЫН.**

---

ЗВЯЗДА
10 снежня 1998 г.



# «Еўрапейская бяспека і НАТО»

**Пад такой назвай прайшоў міжнародны семінар, арганізаваны Беларускім дзяржаўным універсітэтам і Бюро інфармацыі і прэсы НАТО. На сустрэчы беларускіх даследчыкаў-міжнароднікаў, палітолагаў, ваенных спецыялістаў, парламентарыяў разглядаліся праблемы фарміравання новай еўрапейскай архітэктуры бяспекі, перспектывы супрацоўніцтва Беларусі і НАТО. Ход дыскусіі, яе танальнасць абазначыў ва ўступным слове старшыня аргкамітэта, рэктар БДУ прафесар Аляксандр Казулін, які акрэсліў мэту семінара такім чынам: «Шляхам змястоўнага абмену думкамі, паважлівай дыскусіі паімкнуцца вызначыць асноўныя тэндэнцыі ў сферы фарміравання новай сістэмы бяспекі ў Еўропе, а таксама месца і ролю ў гэтым працэсе Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), Арганізацыі паўночнаатлантычнага дагавора (НАТО), Еўрапейскага саюза і Заходнееўрапейскага саюза». Пры гэтым было падкрэслена: Беларусь зыходзіць з таго, што «фармуляванне доўгатэрміновай стратэгіі і ініцыятыў у галіне еўрапейскай бяспекі не можа быць манаполіяй якойсьці адной арганізацыі», што «важна забяспечыць творчае ўзаемадзеянне і ўзгодненасць намаганняў усіх існуючых інстытутаў, маючых адносіны да бяспекі ў Еўропе, без устанаўлення якойсьці жорсткай, раз і назаўсёды дадзенай інстытуцыянальнай іерархіі». Беларусь займае строга адназначную пазіцыю адносна пашырэння НАТО на ўсход, яна не хацела б апынуцца на лініі новага размежавання і магчымага процістаяння ў Еўропе. «Аднак кіраўніцтва Беларусі, — падкрэсліў Аляксандр Казулін, — прымаючы пад увагу новыя рэаліі ў Еўропе, гатова нарошчваць патэнцыял канструктыўнага супрацоўніцтва з Атлантычным альянсам, дабівацца таго, каб будучая новая мяжа зоны адказнасці НАТО на ўсходзе не стала рубяжом канфрантацыі».**

***«У НАТО няма мэты стаць паліцэйскім у Еўропе. Мы не прэтэндуем на вядучую ролю ў стварэнні еўрапейскай бяспекі, але робім у гэта свой уклад»***

Няма адзінага пункту погляду на гэту праблему нават у спецыялістаў заходніх краін. Як адзначыў адзін з удзельнікаў семінара, гэта сведчыць аб тым, што «еўрапейскія палітыкі знаходзяцца ў стане інтэлектуальнага і палітычнага разброду і блытаніны, што за апошнія дзесяць гадоў, калі пачала дзейнічаць новая ступень адкрытасці, яны так і не змаглі знайсці шляхі далейшага развіцця супрацоўніцтва паміж еўрапейскімі краінамі».

Лічыцца, што з леташняга ліпеньскага саміта НАТО ў Мадрыдзе альянс уступіў у эпоху перамен. Але калі адны заходнія палітолагі разглядаюць мадрыдскі саміт як поўнае вяршэнства ЗША, то другія прагназіруюць пачатак канца той арганізацыі НАТО, якая існавала ў Еўропе на працягу 50 гадоў. Напрыклад, дырэктар Люксембургскага інстытута еўрапейскіх і міжнародных праблем доктар А. Клес перакананы, што «шляхам пашырэння НАТО Захад зможа павялічыць свой уплыў**Аляксандр**дбудзецца толькі за кошт змяншэння ступені калектыўнай бяспекі». НАТО, на яго думку, не хоча ўсвядоміць важкі факт: тое, што альянс робіць, напрыклад, у Югаславіі, не адпавядае яго заяўленым мэтам. Такое ўражанне, што для апраўдання свайго існавання НАТО пастаянна шукае знешняга ворага. Апраўданнем гэтаму з канца 40-х гадоў было існаванне Савецкага Саюза, «савецкай пагрозы». Расію ў НАТО не пусцяць, лічыць ён, таму што ў такім разе альянс загіне. Некаторыя заходнія аналітыкі ўпэўнены, што апошнім часам Паўночнаатлантычны саюз губляе сваю палітычную і ваенную сілу, губляе свой уплыў, таму існуе страх, што Еўропа можа ператварыцца ў раён, поўны рызыкі і нестабільнасці. Пакуль не зусім зразумела, што лепш для еўрапейскай бяспекі: пашыраць НАТО ці ствараць штосьці моцнае ў рамках ЕС.

Прадстаўнікі НАТО даказвалі, што сістэма калектыўнай абароны НАТО аказала станоўчы ўплыў на ўзнікненне ў Еўропе культуры самой бяспекі (магутная Германія ладзіць з усімі суседзямі), па сённяшні дзень забяспечвае мір між краінамі (ідэя, напрыклад, вайны паміж Францыяй і Германіяй лічыцца абсурднай). Трэба ўсвядоміць, перакананы яны, што тыя перамены, якія адбыліся за апошнія дзесяць гадоў — знікненне канфрантацыі, з'яўленне новых дзяржаў, — без НАТО пацягнулі б сур'ёзныя канфлікты. Эвалюцыя грамадства Цэнтральнай і Усходняй Еўропы — гэта вялізны прагрэс у сферы эканомікі і палітыкі. Знешняя палітыка еўрапейскіх краін змянілася ў бок супрацоўніцтва і міру. Бяспека, каб быць трывалай, павінна будавацца знізу ўверх, што і дэманструюць «новыя» краіны, імкнучыся ў альянс. Наш прынцып, гаварылі яны — «бяспека павінна быць агульнай і не будавацца за кошт другіх». Акрамя таго, перад НАТО стаіць праблема прыстасавання да новых задач, якія маюць мала агульнага з «халоднай вайной». З яе заканчэннем НАТО ідзе шляхам пераўтварэння сваіх структур і палітыкі з мэтай узмацнення палітычнай ролі саюза і далейшага ўмацавання бяспекі і стабільнасці на Еўрапейскім кантыненце. Зменшыліся расходы краін — членаў НАТО на абарону, праведзены вялікія скарачэнні асабістага саставу і асноўных баявых сухапутных падраздзяленняў. Асаблівае значэнне мае 50-працэнтнае скарачэнне ЗША і Германіяй сваіх узброеных сіл. У перыяд з 1991 па 1993 г. НАТО больш чым на 80 працэнтаў скараціла свае наземныя ядзерныя арсеналы ў Еўропе. Адтуль былі выведзены ўсе ядзерныя сістэмы наземнага базіравання. Саюзнікі па НАТО, сцвярджалі ўдзельнікі семінара, ствараюць новую канцэпцыю бяспекі. Цяпер яна ўжо не зводзіцца да гульні, у якой атрыманне выгады адным бокам азначае страту для другога. «Мы сутыкаемся ўсё часцей з праблемамі, якія носяць агульны характар, — нестабільнасць, этнічнае насілле, тэрарызм, наркаманія, распаўсюджванне зброі масавага знішчэння, пагаршэнне стану навакольнага асяроддзя». Працэс пераўтварэння НАТО мае на ўвазе не толькі прыём трох новых членаў, але і яшчэ некалькіх важных акцэнтаў у рабоце. Па-першае — супрацоўніцтва з Расіяй у рамках Асноватворнага акта, падпісанага летась у Парыжы. У НАТО прызнаюць, што не можа быць сапраўднай бяспекі ў Еўропе без Расіі, але і не спадзяюцца на дасягненне згоды па пытанню, таму што, як і ў любой іншай краіне, у Расіі ёсць свае нацыянальныя інтарэсы, якія могуць разыходзіцца з інтарэсамі НАТО. Апошняя, са свайго боку, таксама мае ўласны погляд на праблемы, якія не заўсёды супадаюць з пазіцыяй Расіі. Але па меры паглыблення адносінаў ёсць магчымасць каардынаваць дзеянні і супрацоўнічаць, для чаго Расія павінна быць больш сумяшчальнай. Ад гэтага выйграе ўвесь свет.

Па-другое, НАТО вельмі зацікаўленая ў далейшым развіцці супрацоўніцтва з Украінай, з якой у яе, на думку прадстаўнікоў альянсу, вельмі цесныя кантакты. Дарэчы, у адной з першых постсавецкіх краін ва Украіне Паўночнаатлантычны альянс адкрыў сваю місію. На парадку дня стварэнне сумеснай рабочай місіі для правядзення рэформы арміі.

Па-трэцяе, у НАТО лічаць, што немагчыма пабудаваць адкрытую Еўропу, захоўваючы закрытасць альянсу — гэта была б чарговая раздзяляльная паласа. Таму так актыўна прапаведуецца прынцып «адчыненых дзвярэй», які павінен прывесці да другой хвалі прыёму новых членаў.

І па-чацвёртае, «найбольш дакладным увасабленнем прыхільнасці НАТО да стварэння архітэктуры бяспекі на аснове сапраўднага супрацоўніцтва з'яўляецца ўзаемадзеянне ў рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру», удзел у якой прымаюць 27 краін. Такіх прыкладаў гісторыя Еўропы яшчэ не ведала». Гэта важкі ўклад у забеспячэнне стабільнасці ў старым свеце. Прадстаўнікі НАТО прыводзілі прыклады таго, як змяняецца накіраванасць дзейнасці НАТО: калі ў старой структуры Паўночнаатлантычнага альянсу 75 працэнтаў усіх дзеянняў датычылася пытанняў абароны, 20 — палітычнай сферы і толькі 5 працэнтаў — іншых (навука, навакольнае асяроддзе, эканоміка, грамадзянскае планаванне, крызісныя сітуацыі і г. д.), то ў «новым» НАТО на абарону будзе адводзіцца ўсяго 40 працэнтаў часу і намаганняў, 30 — на палітычны бок дзейнасці і таксама 30 — на іншае.

«У НАТО няма мэты стаць паліцэйскім у Еўропе, — адзначалі прадстаўнікі альянсу, — мы не прэтэндуем на вядучую ролю ў стварэнні еўрапейскай бяспекі, але робім у гэта свой уклад. Мы хочам, каб Еўропа была адкрытай, каб кожная дзяржава ўдзельнічала ў стварэнні еўрапейскай бяспекі».

Сваё месца ў гэтай справе, на іх думку, павінна заняць і Беларусь, але гэтаму перашкаджае шэраг нюансаў, пра якія госці з НАТО дыпламатычна не гаварылі. Праўда, адзін з незалежных удзельнікаў дыскусіі толькі заўважыў, што Беларусь у палітычным і стратэгічным плане ўяўляе «нічыйную зону»...

***«Сёння больш мэтазгодна ўмацоўваць ролю АБСЕ, ЕС, Савета Еўропы, улічваць не толькі нацыянальныя, але і інтэрнацыянальныя інтарэсы»***

Цікавыя і грунтоўныя думкі па праблемах фарміравання новай сістэмы еўрапейскай бяспекі выказалі беларускія вучоныя-міжнароднікі. Напрыклад, доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Шарапа, канстатуючы факт, што ва ўмовах сучаснай Еўропы ваенны інструментарый ужо не з'яўляецца асноўным сродкам кіравання міжнароднымі справамі, акцэнтаваў увагу ўдзельнікаў семінара на такім асноватворным для фарміравання сістэмы бяспекі паняцці, як «пагроза». Калі ў часы «халоднай вайны» крыніцай канфліктаў былі адносіны паміж дзяржавамі, то пасля яе заканчэння «пагроза» магчыма з-за канфліктаў унутры самой дзяржавы ці ў іншым, аддаленым ад яе рэгіёне, і эскалацыя іх у іншыя краіны. Таму пры вырашэнні праблемы фарміравання еўрапейскай бяспекі неабходна ў першую чаргу вызначыць, якая небяспека, якія выклікі маюць карэнны характар, а якія — другасны па сваёй прыродзе. Але зразумела адно, падкрэсліў ён, што праблемы бяспекі сёння ахопліваюць, акрамя ваенных, іншыя шматлікія аспекты — эканоміку, нацыянальныя супярэчнасці, крызісы, сацыяльную палітыку, энергетыку, дэмаграфію і г. д. У сувязі з гэтым у 90-х гадах пачалі актыўна дыскуціравацца дзве магчымыя формы новай сістэмы бяспекі: калектыўная абарона і калектыўная бяспека. Што датычыцца першай, то, на думку вучонага, яна «адыходзіць ад сённяшніх рэалій і не адпавядае ім у сувязі са знікненнем патэнцыяльнага ваеннага праціўніка». Здавалася б, больш прымальнай для сучасных умоў з'яўляецца другая форма — калектыўная бяспека. Але крытыкі такой канцэпцыі сцвярджаюць, што такая сістэма не забяспечыць ні бяспекі, ні стабільнасці, паколькі яна аб'ядноўвае краіны з рознымі на дадзеным этапе арыентацыяй і інтарэсамі, якія не супадаюць у многім. У выніку пры ўзнікненні канфліктнай сітуацыі гэта сістэма не зможа забяспечыць адзінага разумення небяспекі і стварыць механізм адзіных мераў: найбольш моцная краіна або група краін зробіць самастойныя крокі, не лічачыся з інтарэсамі іншых. Такія меркаванні, падкрэслівалі ўдзельнікі семінара, маюць пад сабой глебу. Апошнія падзеі вакол Косава паказваюць, што некаторыя еўрапейскія краіны і еўрапейскія міжнародныя арганізацыі, не лічачыся з нормамі міжнароднага права, прымаюць аднабаковыя, без санкцыі ААН, рашэнні, у тым ліку такія, якія прадугледжваюць магчымасць прымянення ваеннай сілы. Вось чаму такая форма як «калектыўная бяспека», на думку прафесара, «можа быць рэалізавана ў аддаленым будучым, пры дасягненні аптымальнага спалучэння інтарэсаў дзяржаў, што ўваходзяць у такую сістэму. На цяперашнім жа этапе было б мэтазгодна ўзмацніць ролю такіх еўрапейскіх арганізацый, як АБСЕ, ЕС, Савета Еўропы і каардынаваць прымаемыя імі меры па пытаннях бяспекі з адпаведнымі структурамі СНД, улічваючы не толькі нацыянальныя, але і інтэрнацыянальныя інтарэсы». У гэтай сувязі ўяўляецца важнай пазіцыя кожнай еўрапейскай дзяржавы пры распрацоўцы ўласных дактрын і стратэгій, а таксама неабходнасць змянення падыходаў да гэтай праблемы з боку грамадзян гэтых краін. Частка насельніцтва неадназначна ўспрымае новыя формы бяспекі, наракаючы на тое, што на змену ранейшай яснасці ў размежаванні інтарэсаў розных дзяржаў (хто — сябар, хто — вораг?) прыходзіць складанае і ўсё больш рэгіянальнае і глабальнае перапляценне інтарэсаў. Асобным грамадзянам не хапае прывычнага, знаёмага па жыцці разумення таго, хто і за што адказвае, хто нясе палітычную адказнасць. У гэтай сувязі ўдзельнікі семінара ўспомнілі словы былога прэзідэнта Францыі Мітэрана: «Супярэчлівасць паміж неабходнасцю міжнароднага падыходу да вырашэння праблем і сумненнямі грамадзян, заклапочаных захаваннем сваёй нацыянальнай або рэгіянальнай самабытнасці, з'яўляецца самай вострай з палітычных праблем бліжэйшых дзесяцігоддзяў». Адсюль вынікае, як падкрэслівалі вучоныя-міжнароднікі, яшчэ адна сур'ёзная задача пры фарміраванні новай сістэмы еўрапейскай бяспекі — «фарміраванне новага псіхалагічнага клімату ў Еўропе, калі б грамадскае мысленне ўсё больш прымала б не канфрантацыйны, а кааперацыйны напрамак». У цяперашніх умовах, калі існаваўшы стагоддзямі страх перад знешняй агрэсіяй уступае месца страху перад унутранай небяспекай, калі праблемы бяспекі і выжывання датычаць кожнага чалавека, стварэнне такога клімату ўяўляецца вельмі важным аспектам. Кожны чалавек павінен ясна ўяўляць механізм забеспячэння яго асабістай бяспекі, а таксама дзяржавы ў цэлым. Гэта тым больш апраўдана, таму што на практыцы клопаты і выклікі кожнаму еўрапейцу ў галіне бяспекі падобныя, незалежна ад таго, у якой краіне ён жыве.

Якраз пра псіхалогію ўспрымання насельніцтвам нашай краіны пашырэння НАТО на ўсход, пра гісторыю адносінаў паміж Беларуссю і Паўночнаатлантычным альянсам гаварыў прафесар Уладзімір Снапкоўскі. На яго думку, хоць «атмасфера асаджанай крэпасці, вобраз ворага ў асобе Захаду і НАТО глыбока ўкараніліся ў свядомасць і псіхалогію людзей, але адносіны беларускай грамадскай думкі да НАТО неадназначныя. Гэта сур'ёзная праблема і для ўнутрыпалітычнай дыскусіі». Адзначыўшы, што «НАТО — гэта аб'ектыўная рэальнасць», прафесар Анатоль Разанаў падкрэсліў, што яго ўмацаванне «не павінна адбівацца на іншых еўрапейскіх арганізацыях», «бачна, што НАТО змяняецца, але незразумела пакуль, які будзе канчатковы вынік для Еўропы, для самога альянсу». Таму, на яго думку, «крайнасці тут вельмі шкодныя». Дацэнт Людміла Хухлындзіна акцэнтавала ўвагу на магчымасці стварэння ў Заходняй Еўропе інтэграванай сістэмы бяспекі на аснове Заходнееўрапейскага і Еўрапейскага саюзаў. Рэгіянальны аспект праблемы на прыкладзе ўзаемаадносінаў НАТО і Польшчы аналізаваў у сваім выступленні дацэнт Мечыслаў Часноўскі.

Афіцыйную пазіцыю Беларусі па гэтаму пытанню выказаў Мікалай Чаргінец, старшыня Камісіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі па пытаннях знешняй палітыкі і інфармацыі, старшыня Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, які адназначна заявіў: наша краіна не вітае пашырэнне НАТО на ўсход, таму што шчыра перакананая ў памылковасці такога шляху. Ён падкрэсліў, што «Беларусь разглядае сваю знешнюю палітыку як шматвектарную, накіраваную на развіццё ўзаемавыгадных адносінаў не толькі з бліжэйшымі суседзямі, але і з іншымі краінамі». Зыходзячы з гэтага і бачыцца сучасная еўрапейская архітэктура бяспекі, якая павінна засноўвацца толькі на прынцыпах роўнасці, гарантый бяспекі для ўсіх краін кантынента, узаемнага ўліку іх інтарэсаў, аб'яднання дзяржаў па процідзеянню пагрозы еўрапейскаму супольніцтву.

Канстатуючы, што сёння нельга гарантаваць застрахаванасць Еўропы ад далейшага ўзнікнення крызісных сітуацый, удзельнікі семінара былі аднадушныя ў тым, што прымяненне ваеннай сілы сёння не павінна быць адказам на новыя віды пагроз і рызыкі. «Нават тэарэтычна цяжка ўявіць, як 40 тысяч танкаў будуць процістаяць нелегальнай міграцыі, тэрарызму, міжнароднай злачыннасці, наркабізнесу». Неабходна такая сістэма міжнароднай бяспекі, якая магла б эфектыўна дзейнічаць на ранняй стадыі абвастрэння супярэчнасцяў, перш за ўсё выкарыстоўвала эканамічныя, палітычныя, дыпламатычныя, інфармацыйныя і іншыя мірныя метады. Існуючыя ці патэнцыяльныя праблемы ў міжнародных адносінах — гэта не падстава для канфрантацыі, а прадпасылкі для пошуку палітычных кампрамісаў у інтарэсах усеагульнай стабільнасці. Кіруючыся такімі падыходамі, Беларусь, з моманту набыцця дзяржаўнага суверэнітэту, актыўна ўключылася ў працэс забеспячэння еўрапейскай бяспекі. Як падкрэсліў начальнік інфармацыйна-аналітычнага аддзела Цэнтра ваенных даследаванняў Мінабароны Юрый Тома, « рэспубліка не разглядае ніводную дзяржаву ў свеце ў якасці свайго патэнцыяльнага праціўніка, а ваенную сілу — як важны сродак сваёй бяспекі». Ён паведаміў, што за пяць гадоў узброеныя сілы нашай краіны былі скарочаны амаль у тры разы. Нягледзячы на праблемы эканамічнага характару, неабходнасць ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Беларусь ва ўстаноўлены тэрмін поўнасцю выканала свае абавязкі па Дагавору па звычайных узброеных сілах у Еўропе. З 1992 па 1996 г. былі утылізаваны 1773 танкі, 1441 баявая машына пяхоты, 130 баявых самалётаў. У агульным аб'ёме было ліквідавана столькі ваеннай тэхнікі, колькі ў ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі разам узятых. Беларусь таксама з'яўляецца ўдзельніцай праграмы «Партнёрства дзеля міру». У сувязі з аб'яўленнем рашэння НАТО ў маі леташняга года аб прыёме ў гэту арганізацыю новых членаў, Беларусь прапанавала кадыфікаваць свае адносіны з НАТО ў рамках спецыяльнага дакумента (хартыі) Беларусь—НАТО.

Такі крок быў прадыктаваны неабходнасцю атрымання нашай краінай элементарных гарантый бяспекі. На вялікі жаль, гэта ініцыятыва не сустрэла пэўнага разумення ў штаб-кватэры НАТО.Так што са свайго боку, падкрэслівалася ў ходзе дыскусіі, наша краіна шукае найбольш аптымальныя варыянты стварэння архітэктуры еўрапейскай бяспекі, якая ўлічвала б інтарэсы ўсіх краін кантынента.

Гаворачы аб структуры бяспекі, падкрэслівалася, што «ваенна-палітычныя саюзы, на якіх бы прынцыпах яны ні будаваліся, могуць вырашаць толькі абмежаванае кола задач», «яны не могуць даць поўнай гарантыі бяспекі сваім членам, калі не будуць улічвацца інтарэсы іншых дзяржаў». Гэта, на думку некаторых экспертаў, прывядзе да новых раздзяляльных ліній, да новага процістаяння. Таму Беларусь гатова падтрымаць любыя прапановы па стварэнню трывалай сістэмы еўрапейскай бяспекі, але як і любая дэмакратычная дзяржава не прымае спроб палітычнага дыктату, ігнаравання яе нацыянальных інтарэсаў, палітыкі двайных стандартаў, умяшання ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Імкненне ўмацаваць бяспеку адных дзяржаў без уліку правоў на гэта другіх не садзейнічае стварэнню ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва на Еўрапейскім кантыненце.

Недавер да НАТО выклікаюць і іншыя крокі, зробленыя гэтай арганізацыяй ужо ў 90-х гадах. Напрыклад, Мікалай Чаргінец ставіў пытанне востра: сёння ці ў час вываду савецкіх войскаў з Германіі кіраўніцтва НАТО было шчырым, заяўляючы, што не будзе пашырэння альянсу на Усход? Хвалюе і тая паспешлівасць, з якой краіны — члены НАТО, падпарадкоўваючыся ЗША, гатовы прымяніць зброю. Прыклад — Югаславія, Ірак. Насцярожвае таксама выбіральнасць у выкарыстанні зброі. Не дадумаліся ж у НАТО прымяніць ваенную сілу ў канфлікце Англіі і Паўночнай Ірландыі?

Улічваючы гэтыя і іншыя аспекты абмяркоўваемай праблемы, афіцыйныя пазіцыя Беларусі заключаецца ў далейшым развіцці АБСЕ. Менавіта гэта еўрапейская структура павінна стаць цэнтрам асновы еўрапейскай бяспекі. Пры АБСЕ для вырашэння міжэтнічных канфліктаў, што існуюць на кантыненце, мэтазгодна было б стварыць сілы хуткага рэагавання, у састаў якіх увайшлі б псіхолаг, медыкі, педагогі, гісторыкі, прадстаўнікі духавенства, якія працавалі б з насельніцтвам і садзейнічалі б мірнаму затуханню ўзнікаючых канфліктаў.

У працяг ініцыятыў, з якімі пастаянна выступаюць беларускія палітыкі, на семінары прагучала прапанова пачаць у рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру» актыўную барацьбу з незаконнай міграцыяй, гандлем зброяй, распаўсюджваннем наркотыкаў і СНІДу. Напрыклад, у Беларусі сёння пражывае каля 700 тысяч незаконных мігрантаў. Амаль 200 тысяч з іх прыехалі з Паўднёвай Азіі, каб потым нелегальна перабрацца ў Заходнюю Еўропу. НАТО магла б прыняць канкрэтны ўдзел у спыненні гэтага працэсу.

НАТО, на думку Мікалая Іванавіча, з яго магутным ваенным, палітычным, а таксама эканамічным патэнцыялам, магло б адыграць асаблівую ролю ў вызваленні Балтыйскага і Паўночнага мораў ад некалькіх соцен тысяч тон хімічнай зброі, захопленай савецкімі і амерыканскімі войскамі ў фашысцкай Германіі і патопленай там у 60 кропках.

Па падліках вучоных, праз 3-4 гады можа адбыцца залпавы выкід гэтай хімічнай зброі, якая, вядома, знаходзіцца ў пржавелых суднах. Ад гэтага могуць пацярпець ад 80 да 250 мільёнаў жыхароў Еўропы, загубіцца ўсе рыбныя запасы рэгіёна. А калі ўлічыць, што Балтыйскае мора найбольш выпаральнае ў свеце, то ёсць сур'ёзная небяспека з'яўлення страшнай экалагічнай катастрофы ва ўсім свеце. Гэту праблему, дарэчы, мяркуецца разгледзець у наступным годзе на канферэнцыі пад умоўнай назвай «Еўропа — наш агульны дом», якая адбудзецца ў Мінску. Расія згадзілася прадставіць усе закрытыя матэрыялы, якія датычацца гэтай праблемы.

Шмат іншых узнімалася праблем, якія ўзнікаюць ці могуць узнікнуць на шляху стварэння новай архітэктуры еўрапейскай бяспекі. На шляху да «новай» Еўропы, свабоднай ад раздзяляльных ліній, напружанасці і недаверу. Трэба спадзявацца, што міжнародны семінар па гэтаму пытанню, праведзены на факультэце міжнародных адносінаў БДУ, дарэчы, упершыню ў краіне, пакладзе пачатак наладжванню раўнапраўнага партнёрства Беларусі і НАТО, канструктыўных адносінаў паміж імі.

Новая сістэма бяспекі — гэта працэс, яна не будзе дзейнічаць імгненна, як толькі пачнуць прымяняцца на практыцы новыя схемы, яна патрабуе ўсведамлення ўсімі сваёй важнасці і неабходнасці. Зрабіць гэта будзе няпроста, але было б жаданне.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ЭКАНАМІЧНЫЯ ДРАМЫ

# ДАРОГІ,
## якія мы вымушаны выбіраць...

**ФІЛАСОФСКАЯ сентэнцыя, што не мы выбіраем дарогі, а яны нас, мае і канкрэтны сэнс. Мы становімся палоннікамі, заложнікамі існуючых дарог. Бо іншых няма. У гэтым сэнсе пешаходам прасцей, чым вадзіцелям, — можна пайсці дварамі. Лёс жа апошніх з дарогамі пераплецены, і драмы падобныя. Адна з іх, якая разыгралася апошнім часам, звязана з галоўнай трасай нашай краіны — аўтамагістраллю Брэст—Мінск—граніца Расійскай Федэрацыі, ці, як часцей яе называюць, — «алімпійкаю».**

### Калі час аддаваць пазыкі...

Мой стрыечны брат — «дальнабойшчык». Так называюць вадзіцеляў міжнародных перавозак. Чалавек ён вясёлы, дасціпны. Даўно карціць запісаць ягоныя байкі з шафёрскага жыцця. Але пры апошняй сустрэчы Сяргей быў змрочны:

— Нешта не тое робіцца ў Дацкім каралеўстве, — пачуў я ў адказ на пытанне аб прычыне яго дрэннага настрою. — Начальства кажа, каб ездзілі па іншых дарогах, а не па «алімпійцы». А гэта даўжэй, ды і траса не тая. Нібыта цяпер за праезд па галоўнай магістралі трэба плаціць...

Каб захаваць Беларусь адной з буйнейшых транзітных дзяржаў і мець, зразумела, з гэтага пэўныя дывідэнды, трэба магістраль аднаўляць. Грошы, і даволі вялікія, — 30 мільёнаў долараў, даў Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Вядома ж, у крэдыт, пад адпаведныя працэнты.

Час пазычаць.

І час аддаваць.

Ён набліжаецца.

У ліпені з'явілася новая пастанова ўрада: «Нацыянальныя ўладальнікі і карыстальнікі шматвосевых (больш двух восяў) грузавых аўтамабіляў уплачваюць гэты збор з 1 лістапада 1998г., а іншых аўтатранспартных сродкаў — пасля прыняцця Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь адпаведнага рашэння (па завяршэнню работ па мадэрнізацыі ўказанай аўтамабільнай дарогі)».

Пастановай вызначалася, што за праезд па трасе вадзіцелям двухвосевых грузавых аўтамабіляў прыйдзецца плаціць 5 долараў, трохвосевых — 10, чатырох і больш — 20.

Нагадаю: пастанова прымалася да апошняга расійскага крызісу, што стаў адчувальным і для Беларусі.

Вось і засумаваў мой брат-весялун. Што ўжо казаць пра ягоных начальнікаў, якіх напярэдадні 1 лістапада яшчэ больш «парадавалі». У адпаведнасці з рашэннем Міністэрства транспарту і камунікацый стаўкі аплаты для 4 і болей восяў з 20 долараў узраслі да 25.

### Раз — плаці. І два, і тры...

Пачнём з пакрыўджаных. З тых, каму трэба плаціць.

— Дзяржаўны рэкет — па-іншаму гэта рашэнне не назавеш, — такімі словамі пачаў нашу гутарку намеснік генеральнага дырэктара ТАА «Белмагістральаўтатранс» Андрэй Бурак. — І так крызіс моцна ўдарыў па нас. А яшчэ плата за карыстанне «алімпійкаю»! Ведаеце, колькі цяпер складаюць дадатковыя расходы на кожную перавозку? 100 долараў! Работа па міжнародных перавозках становіцца нерэнтабельнай. Зразумейце: мы не адмаўляемся падтрымліваць стан дарог. Але ж у дарожныя фонды ужо плацім два падаткі. Цяпер фактычна атрымліваецца трайное падаткаабкладанне. Нідзе ў свеце такога няма...

Справа ў тым, што аўтатранспартныя прадпрыемствы, якія выконваюць міжгародія і міжнародныя перавозкі, плацяць у рэспубліканскі бюджэт 1 працэнт ад аб'ёму выкананых работ і паслуг, пакольскі з'яўляюцца карыстальнікамі дарог. Яшчэ пералічваецца 2 працэнты ад даходаў, атрыманых з перавозак па тэрыторыі Беларусі і краін СНД. Усяго за сем сёлетніх месяцаў ААТ «Белмагістральаўтатранс» пералічыла 1 мільярд 920 мільёнаў рублёў. Дарэчы, за праезд па замежных трасах выплачана 846 мільёнаў. Параўнайце лічбы і зрабіце высновы. Свaім плацім болей, чым чужым.

— Смаленская і Пскоўская вобласці, напрыклад, увялі экалагічны падатак, — разважаў Андрэй Мечыслававіч. — Але толькі для замежнікаў. Такім чынам яны імкнуцца абараніць рынак сваіх транспартных паслуг. Між іншым, у заходніх краінах расходы на ўтрыманне дарог закладваюцца ў кошт паліва. Чаму б і нам не скарыстацца іх досведам?

З аплатай адбываецца яшчэ адна цікавая рэч. Уладальнікі транспартных сродкаў аплачваюць за праезд па дарозе ў беларускіх рублях па курсу Нацбанка на дзень плацяжу. Спісванне ж сродкаў робіцца на дзень праезду. А курс долара падаць, як вядома, не збіраецца. Наадварот. Фактычна аўтапрадпрыемствы крэдытуюць рэспубліканскае дзяржаўнае вытворчае прадпрыемства «Белаўтастрада».

Новая аплата ў першую чаргу закранула буйныя прадпрыемствы. Але ж менавіта з іх найбольш грошай ідзе ў бюджэт краіны. Значыць, пры банкруцтве фірмы губляем мы ўсе.

Аўтатранспартнікі разумеюць: адмяніць пастанову нерэальна. Але просяць хаця б зменшыць суму аплаты.

— Наша прадпрыемства, як і камітэт па дарогах (ініцыятар пастановы), уваходзіць у адно міністэрства, — здзіўляецца Андрэй Бурак. — Але там чамусьці не могуць знайсці паразуменне, бо на словах кіраўніцтва міністэрства нас падтрымлівае. Мусіць, толькі на словах...

### Дарога для транспартнікаў ці транспартнікі для дарогі?

Намеснік старшыні камітэта па аўтамабільных дарогах Аляксандр Несцеровіч быў канкрэтным:

— Нам трэба аддаваць крэдыт Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцця. З імі на канфлікт ісці нельга ні ў якім разе. І так ужо была адтэрміноўка. Іншых грошай няма. Увогуле платнай дарога робіцца тады, калі ёй ёсць альтэрнатывы. Як у дадзеным выпадку.

Да гутаркі з Аляксандрам Несцеровічам я ўжо ведаў, што многія вадзіцелі едуць іншымі трасамі. Той жа мой брат. Але па словах Андрэя Бурака, ехаць на Гродна ці Бераставіцу — таксама не выйсце, бо там пачнуць стварацца вялікія пробкі.

Што датычыць старой дарогі Брэст—Масква, дык тлумачэнне мне далі спецыялісты з Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтамабільных перавозчыкаў. Па іх словах, там дрэнная дарожнае пакрыццё; па-другое, яна пачынаецца толькі ад Кобрына (значыць, пры ўездзе ў краіну ўсё роўна даводзіцца праехаць пэўны ўчастак дарогі М1, на якой няма ніякіх шанцаў не плаціць збор); а па-трэцяе, па ўсёй яе даўжыні ўстаноўлена абмежаванне нагрузкі на вось. Таму міжнародныя перавозчыкі вымушаны будуць плаціць за перавышэнне гэтай нагрузкі. А за што аддаваць грошы — розніцы няма...

Я сказаў пра пазіцыю БАМАП Аляксандру Несцяровічу, на што пачуў для мяне дзіўнае:

— Яны абараняюць інтарэсы камерцыйных перавозчыкаў.

Па-мойму, у нас такая дзейнасць не забаронена. Мне — спажыўцу — неістотна, дзяржаўнае ці камерцыйнае прадпрыемства прывозіць тавар. Тое ж датычыцца і бюджэту. Абы падаткі плацілі. І ўвогуле: няўжо можна дзяліць на сваіх і чужых? Тым болей, калі большасць дзяржаўных прадпрыемстваў перетваралася ў акцыянерныя таварыствы. І не толькі сярод транспартнікаў.

Аляксандр Несцяровіч шчыраваў:

— Я выказваю меркаванне дарожніка. Транспартнікі — сваю пазіцыю. Але пагадзіцеся: нагрузкі на дарогі ёсць? Ёсць. Рамантаваць іх трэба? Трэба. І гэта.галоўнае.

Наколькі я разумею, аўтатранспартнікі і не адмаўляюцца. Памятаеце пра адлічэнні ў дарожны фонд?

Падобная пазіцыя і ў кіраўніка «Белаўтастрады» Марыка Більчука:

— У першую чаргу дарога і робіцца для транспартнікаў. Чым лепшыя трасы, тым лепш і для іх. Злучаныя Штаты Амерыкі, па словах саміх амерыканцаў, дасягнулі такога росквіту, бо адразу вызначылі два прыярытэты: Канстытуцыя і дарогі.

— На маю думку, плаціць за адзін кругарэйс 100 долараў (з улікам аплаты за ўезд і выезд) мнагавата.

— Для іх сума не такая ўжо значная. Дарогу ж у належным стане падтрымліваць трэба пастаянна.

— А ці нельга гэта рабіць за кошт прыдарожнага сервісу?

— Нікому, хто хацеў арганізаваць каля магістралі сферу абслугі і выконваць пры гэтым адпаведныя нормы, мы не адмаўлялі. Нікому. А грошы, якія ідуць нам ад іх дзейнасці, паверце, вельмі мізэрныя.

— Ці не можа адбыцца іншае: пачнуць вадзіцелі ездзіць аб'язнымі дарогамі, і вам не будзе ніякай карысці?

— Падчас нядаўняга крызісу спад быў, а цяпер усё вяртаецца «на кругі свае».

* * *

Паводле даных часопіса «Дело» за мінулы год беларускія міжнародныя перавозчыкі «прывезлі» на радзіму больш як 400 мільёнаў долараў. Гэта дазволіла пакрыць 38 працэнтаў валютнага знешнеэканамічнага дэфіцыту. Відавочна: гэта сфера з'яўляецца адной з самых галоўных крыніц паступлення валюты ў Беларусь. Ды транспарт мае ўласцівасць псаваць, аўтапарк патрабуе абнаўлення. Пры фактычна трайным падаткаабкладанні такое практычна немагчыма. «Белмагістральаўтатранс» таксама робіць гэта на Захадзе па лізінгу. Значыць, у крэдыт. Варта знізіць канкурэнтаздольнасць — і наша месца зоймуць іншыя.

Гэта датычыць і дарог. У Літве пачаліся работы па будаўніцтву альтэрнатыўнай «алімпійцы» аўтамагістралі, якая злучыць краіны Заходняй Еўропы з Расіяй. Літоўцы калісьці ўжо перахапілі ў нас транзітную ролю ў аўтамабільным рынку. Яны, напэўна ж, будуць больш уважлівымі і да міжнародных перавозчыкаў. Як бы нам зноў не застацца ўбаку...

**Міхал ТАЛОЧКА.**

## Post Factum
### Гэты дзень у гісторыі

❑ **10 снежня 1821 года** нарадзіўся выдатны рускі паэт Мікалай Аляксеевіч Някрасаў.

❑ **У гэты дзень у 1883 годзе** нарадзіўся Андрэй Вышынскі, генеральны пракурор СССР, старшынстваваў на многіх гучных працэсах па справах «ворагаў народа».

❑ **У гэты дзень у 1901 годзе** ўручаны першыя Нобелеўскія прэміі. 10 снежня штогод кароль Нарвегіі ўручае Нобелеўскую прэмію міру, а кароль Швецыі — астатнія прэміі. Першымі ж лаўрэатамі сталі фізік Вільгельм Конрад Рэнтген (Германія), фізік Якаб Хендрык Вант-Гоф (Галандыя), мікрабіёлаг Эміль Адольф Берынг (Германія), пісьменнік Франсуа Арман Сюлі-Прудон (Францыя), а Нобелеўскую прэмію міру атрымалі адразу два лаўрэаты — швейцарац Анры Жан Дзюнан і француз Фрэдэрык Пасі.

❑ **10 снежня 1904 года** нарадзіўся Антанін Новатны, вядомы палітычны і дзяржаўны дзеяч Чэхаславакіі, прэзідэнт ЧССР у 1957—1968 гадах.

❑ **10 снежня 1948 года** прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Штогод адзначаецца ААН як Дзень правоў чалавека.

❑ **У гэты дзень у 1981 годзе** невядомымі злачынцамі ў сваёй кватэры была застрэлена выдатная савецкая актрыса Зоя Фёдарава. Гэта адбылося за некалькі дзён да эміграцыі Фёдаравай у ЗША. Многія лічаць, што забойства — справа рук спецслужбаў.

### Дзесьці на белым свеце

***Патруль з 30 салдат і двух афіцэраў на армейскім грузавіку «працэсваў» сельскую мясцовасць у калумбійскім дэпартаменце Нарыньё ў пошуках партызан.***

Рухаючыся па прасёлкавай дарозе, яны нечакана былі атакаваны полчышчам так званых афрыканскіх пчол. Вадзіцель грузавіка, ратуючыся ад напасці, выскачыў з яго на поўным ходу, і аўтамабіль зваліўся ў глыбокі кювет. Сем салдат у цяжкім стане былі шпіталізаваны. Астатнім таксама давялося аказваць медыцынскую дапамогу. Баявое заданне было сарвана.

Афрыканскія пчолы, чый мёд паспяхова прымяняецца для лячэння язваў і ран, былі завезены ў Паўднёвую Амерыку ў пачатку 80-х гадоў у рамках праграмы па аказанню медыцынскай дапамогі сельскім жыхарам. Аднак размнажэнне насякомых не кантралявалася, цэлыя раі зляталі ў сельву, дзе пладзіліся з неймавернай хуткасцю. Полчышчы гэтых дзікіх насякомых сталі нападаць на людзей. Сярод жыхароў сельскіх раёнаў такіх краін, як Калумбія, Аргенціна, Перу, Эквадор, Венесуэла, ужо ёсць каля сотні ахвяр, якія загінулі ад укусаў афрыканскіх пчол-забойцаў.

Вось такая, з дазволу сказаць, дапамога...

### Хочаце — верце...

Сталыпін аднойчы за снеданнем паведаміў дамашнім, што памёр яго стары сябар. Тыя здзівіліся: пошты яшчэ не было. Пётр Аркадзьевіч растлумачыў: «Ён прысніўся мне сёння ноччу і папрасіў паклапаціцца аб яго жонцы і дзецях». Вечарам прыйшла тэлеграма з паведамленнем аб смерці яго сябра.

Усім вядомы факт аб тым, што Мендзялееў менавіта ў сне ўбачыў сваю табліцу, нямецкі хімік Кекуле — формулу бензолу, дацкі фізік Нільс Бор — структуру атама, а авіяканструктар Алег Антонаў — формулу хваставога апярэння самалёта-гіганта «Антэй».

### І так бывае

***Лідэру кансерватыўнай партыі Вялікабрытаніі Уільяму Хейгу нарэшце пашанцавала. Дакладней, пашанцавала не яму асабіста, а яго дзядзьку.***

Дзядзька палітыкана выйграў джэк-пот нацыянальнай латарэі Англіі. Арганізатары латарэі паведамілі, што 73-гадовы Мэрджэры Лангдзін стаў адным з чатырох шчаслівчыкаў у краіне, якія выйгралі па 856.648 фунтаў, што складае каля 1.430.000 долараў.

Хейгу цяпер трэба выпрасіць у сваяка пару сотняў тысяч і прыгожа іх ахвяраваць у які-небудзь дабрачынны фонд. Можа, гэта зможа дапамагчы кансерватарам вярнуць свае страчаныя палітычныя пазіцыі?

### А яшчэ быў выпадак

***Шатландскі інжынер Дзік МакЛін для прыцягнення турыстаў змайстраваў жалезны макет славутага лох-нескага дыназаўра, які меркавалася ўстанавіць на невялікім астраўку Лонг-Роўз.***

Аднак пры мантажы канструкцыі металічны чатырохметровы монстр хлопнуў сківіцамі і праглынуў свайго ж стваральніка. Калегі МакЛіна па працягу шасці гадзін вызвалялі яго з нечаканага палону і нарэшце выцягнулі на белы свет паўжывога. Нечаканае здарэнне сам Дзік МакЛін растлумачыў камп'ютэрным збоем. Дэманстраваць жалезную пачвару турыстам яе стваральнікі пакуль не рашаюцца.

### Анекдот

*Муж — жонцы:*

*— Уяўляеш, прагледзеў нядаўна дзённік нашай дачкі і ледзь прытомнасць не страціў!*

*— Што, шмат двоек нахапала?!*

*— Ды не, аказваецца, яна ўжо ў чацвёртым класе!*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 7113.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12